

# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Субота, 4 снежня 1993 г.
№ 156 (19291) Цана 15 руб.


## Падзеі. Факты. Каментарыі

♦ *ПАРЛАМЕНТ: ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ*

### ПАКАРАННЮ СМЕРЦЮ ПАКУЛЬ БЫЦЬ

Наяўнасць дзяржаўнай сімволікі — закон любога цывілізаванага грамадства. Герб "Пагоня" і бела-чырвона-белы флаг былі зацверджаны Вярхоўным Саветам два гады таму назад. Цяпер, абмяркоўваючы праект новай Канстытуцыі, парламент зноў вырашае: якімі быць дзяржаўным сімвалам? Некаторыя прамоўцы лічаць: цяперашнія флаг і герб не маюць права на існаванне. Іншыя патрабуюць уключэння ў Канстытуцыю канкрэтнага апісання нацыянальнай сімволікі. Ні адна з прапаноў, уключаючы прапанову Канстытуцыйнай камісіі, не набарала двух трацей галасоў.

Затым дыскусія разгарнулася вакол праблемы пакарання смерцю: быць або не ёй на зямлі Беларусі? Частка дэпутацкага корпуса лічыць, што выключная мера пакарання як кара не можа быць замацавана ў Канстытуцыі. "Не дзяржава дае жыццё чалавеку, і яна не мае права яго забіраць", — лічыць старшыня Камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў. Яго апаненты прытрымліваюцца іншага пункту погляду: на сённяшні дзень ва ўмовах прававой беззаконнасці і росту злачыннасці дзяржава не можа адмовіцца ад такой меры пакарання. У выніку за фармулёўку камісіі прагаласавалі 243 чалавекі. Гэтага дастаткова для яе прыняцця.

Кожны дзень абмеркавання праекта Асноўнага Закона павялічвае колькасць параграфаў, адпрацаваных на дапрацоўку. На ранішнім пасяджэнні ў першы дзень снежня такі лёс спасцігнуў артыкул 41, у якім ішла размова аб праве грамадзян Рэспублікі Беларусь на працу. Дэпутат Мікалай Коваль настойваў на тым, каб у Канстытуцыю абавязкова ўнеслі палажэнне, па якому грамадзянам Беларусі гарантуецца гэта права. Супраць эмацыянальна выступіў дэпутат Аляксандр Сасноў. На яго думку, такая норма проста невыканальная. Галасаванне паказала, што большасць дэпутатаў не падтрымала ні ініцыятыву Коваля, ні Саснова, ні кампрамісную фармулёўку Канстытуцыйнай камісіі. Артыкул адправілі на дапрацоўку.

Задаўшы распрацоўшчыкам у чарговы раз нялростую задачку, дэпутаты на дзённым пасяджэнні аказаліся на здзіўленне аднадушнымі. Без асаблівых клопатаў яны прагаласавалі за прыняцце шасці артыкулаў праекта з раздзелаў "Асоба, грамадства, дзяржава" і "Выбарчая сістэма. Рэферэндум". Неабходную колькасць галасоў атрымалі артыкулы, якія вызначаюць абавязкі і правы грамадзян рэспублікі.

Белінфарм.

### ПРЭЗІДЭНЦТВА — ПАНАЦЭЯ АД БЕД?

Першы дзень зімы зноў прынёс непрыемныя сюрпрызы жыхарам рэспублікі, у чарговы раз апустошваючы іх кашалькі. Бурліў у гэты дзень і парламент, але па іншай прычыне — быць ці не быць у нас прэзідэнту?

Вядома, было б наіўным чакаць, што цяперашняя дыскусія аб прэзідэнце пройдзе гладка і ў поўнай згодзе. Думкі многіх дэпутатаў па гэтаму пытанню вельмі мяняюцца на кожнай сесіі. Паводле слоў Мікалая Грыгнева, гэта тлумачыцца тым, што многія дэпутаты знаходзяцца на раздарожжы, так і не вырашыўшы для сябе — патрэбны ў Беларусі прэзідэнт ці не. У выніку Вярхоўны Савет так і не падышоў да паартыкульнага абмеркавання главы "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь". Вырашылі стварыць пагаджальную камісію.

Затым парламент пачаў абмяркоўваць шостую главу праекта "Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь". Прыняты шэраг адпраўленых раней на дапрацоўку артыкулаў.

Працэс стварэння новай Канстытуцыі на ранішнім пасяджэнні 2 снежня быў спынены выступленнем намесніка Старшыні Савета Міністраў Сяргея Лінга. Ён расказаў дэпутатам аб мерах, прымаемых урадам па паляпшэнню спраў у аграрным сектары.

Пасля гэтага дэпутаты зноў пачалі працаваць над Асноўным Законам. Станіслаў Шушкевіч прывёў наступныя лічбы: у праекце Канстытуцыі 152 артыкулы, цалкам прынята ўжо 88, часткова — 13, не прынята і пакуль няма сэнсу разглядаць 43. Застаецца яшчэ 8 артыкулаў, якія можна паспрабаваць прыняць ужо сёння.

Аднак артыкул 77, над якім пачалі працаваць народныя выбраннікі, быў адпраўлены на дапрацоўку. Спрэчка разгарэлася з-за таго, калі можна прызначаць рэферэндум праведзеным. Рабочая група, арыентуючыся на сусветную практыку, прапанавала такі варыянт — у рэферэндуме павінна ўдзельнічаць 50 працэнтаў плюс 1 ад спісачнага саставу выбаршчыкаў. У групы дэпутатаў была іншая думка — не менш за дзве трэці. Быў і кампрамісны варыянт — рашэнне лічыцца прынятым, калі за яго прагаласуюць больш як палавіна асоб, унесеных у спісы выбаршчыкаў. Але і ён не набраў неабходнай колькасці галасоў. Вынікі дыскусіі сумна рэзюміраваў Уладзімір Заблоцкі: "Не было ў нас ні аднаго рэферэндуму і не будзе".

На дзённым пасяджэнні парламент прыняў некалькі артыкулаў, якія вызначаюць статус Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.

Затым па просьбе Васіля Шаладонава дэпутаты зноў вярнуліся да пытання: патрэбен рэспубліцы прэзідэнт ці не. Але для канчатковага адказу неабходнай колькасці галасоў так і не набрана. Далейшыя дэбаты былі прысвечаны яшчэ адной праблеме, звязанай непасрэдна з прэзідэнцтвам: якім павінен быць парламент — прафесійным або не. Да канца дзённага пасяджэння дэпутатам так і не ўдалося знайсці згоды па гэтаму пытанню.

Белінфарм.

## «ШКЛОВАЛАКНУ» — 35

Якое ні цяжкае цяпер становішча ў эканоміцы, а ў полацкім вытворчым аб'яднанні "Шкловалакно" ўсё ж вырашылі адзначыць 35-годдзе. У 1958 годзе выдаў першую прадукцыю завод шкляного валакна ў Полацку, паклаўшы пачатак такой вытворчасці не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў тадышнім СССР.

Да юбілею ў працоўным калектыве правялі спаборніцтвы на званне лепшага па прафесіі. Названы пераможцы сярод апаратараў, ткачоў, круцільшчыц. Праведзены лёгкаатлетычны крос па маршруце Полацк — Наваполацк, удзельнікі якога зацята адолелі дыстанцыю, нягледзячы на холад. Да свята кожны работнік атрымаў салодкі падарунак — каробку пячэння і каробку цукерак. А ветэранам былі ўручаны і каштоўныя рэчы.

У Палацы культуры вытворчага аб'яднання ўрачыстае пасяджэнне завяршылася канцэртам.

Трыццаць пяць гадоў ззаду. Якія будуць наступныя? На свяце адчувалася ўпэўненасць, што можна і трэба без страт выходзіць з цяперашняга крызісу.

Г. КІРЫЛАЎ.

## Сабака гаўкае, а цэны — кусаюцца

Амаль усю ноч гаўкаў суседчын шчанюк. Ці, можа, далікатэсны рацыён урэзала яму гаспадыня ў сувязі з чарговым павышэннем цэн, ці наогул перавяла на ліверку.

Шчанюка, хоць і надакучае, цярпець яшчэ можна, а вось цэны... Яны быццам ашалелі. Ужо і ўлады на іх не хапае. Пушчаны ўверх, не зважаючы на абмежаванні і дэкларацыі. Як вядома, аблвыканкам 18 кастрычніка г.г. прыняў рашэнне аб дэкларыванні цэн на мяса-малочную прадукцыю і асобныя віды сацыяльназначных тавараў. Сюды трапілі свініна, ялавічына, паўфабрыкаты мясныя і каўбасы вараныя з гранічным узроўнем рэнтабельнасці 5 працэнтаў, масла жывёльнае — 8, а на далікатэсныя мясапрадукты і каўбасныя вырабы, сыры мяккія і цвёрдыя — рэнтабельнасць не больш 10 -- 15 працэнтаў. У асноўным так яно і робіцца. Але не ўсюды.

Прэзідыум абласнога Савета народных дэпутатаў вырашыў пацікавіцца механізмам цэнаўтварэння і выявіў нямала недахопаў. Прадпрыемствамі мяса-малочнай прамысловасці цэны нярэдка завышаюцца, робяцца з "запасам" на будучае.

Схопяць каго кантралюючыя органы за руку — даводзіцца аддаваць лішняе. Але ўсіх і ўсё ці ж пракантралюеш? Тым больш, што і цэны мяняюцца за месяц не адзін раз.

Мяса-малочнае аб'яднанне сістэматычна парушае ўстаноўлены парадак дэкларавання. Зывага сур'ёзная. А каго з вінаватых прыцягнуў да адказнасці аддзел цэнаўтварэння і кантролю за прымяненнем цэн аблвыканкома? Нікога. Кіраўнік аддзела М.Фядосаў не змог аргументаваць сваю паблажлівасць да парушальнікаў.

Адзначана таксама паслабленне кантролю за правіламі гандлю, асабліва пры продажы насельніцтву мяса-малочных прадуктаў. Амаль кожная трэцяя кантрольная пакупка ажыццяўляецца з аблікам, абвагай. І ўсё сыходзіць з рук.

Можа, кантраляваць у нас некаму? Службаў хоць адбаўляй. Вось толькі тыя, што названы ў пастанове прэзідыума: аддзел цэнаўтварэння, упраўленне эканамічнага кантролю, цэнтр стандартызацыі і метралогіі, выканкомы гарадскіх і раённых Саветаў. І кожная мае даволі важкія паўнамоцтвы. А яшчэ — інспекцыя па гандлю і ахове правоў спажыўцоў, рэвізорскія і іншыя службы, якія абавязаны спыняць незаконныя дзеянні.

Ці зменіцца што пасля разгляду пытання? На наш погляд, значный палёгкі пакупніцкаму кашальку не чакаецца. Нават калі б усе кантралёры ўзорна выконвалі свае абавязкі.

А.ВІХРОЎ.

## ПАСТАНОВА Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 812

### Аб правядзенні Міжнароднага дня інвалідаў

У сувязі з правядзеннем 3 снежня 1993 г. Міжнароднага дня інвалідаў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

пастанаўляе:

1. Выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствам і ведамствам, прадпрыемствам, установам і арганізацыям правесці адпаведныя мерапрыемствы, арганізаваць сустрэчы з інвалідамі, адшукаць магчымасці для аказання матэрыяльнай дапамогі маламаёмным інвалідам, бясплатных транспартных паслуг таварыствам інвалідаў.

Прапанаваць выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў разгледзець пытанне аб аказанні ў 1994 годзе фінансавай дапамогі абласным, гарадскім і раённым арганізацыям інвалідаў для развіцця іх матэрыяльнай базы.

2. Міністэрству сацыяльнага забеспячэння да 1 лютага 1994 г. абагульніць пажаданні, выказаныя інвалідамі пры правядзенні Міжнароднага дня інвалідаў, і па пытаннях, якія патрабуюць рашэння ўрада, унесці адпаведныя прапановы.

**Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь** — **М.МЯСНІКОВІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь** — **М.КАЎКО.**

1 снежня 1993 г.
г. Мінск.

## Экспрэс-інфармацыя

*На сустрэчы прэм'ер-міністраў Расіі і Беларусі В.Чарнамырдзіна і В.Кебіча абмеркаваны пытанні далейшага развіцця гандлёва-эканамічных адносін, даўгоў, а таксама ўзаемнага ўдзелу партнёраў у акцыяніраванні прадпрыемстваў у Расіі і Беларусі. Бакі з задавальненнем адзначылі, што Беларусь поўнасцю выплаціла доўг за нафтапрадукты. Асаблівая ўвага была ўдзелена ўваходу Беларусі ў рублёвую зону. Тут, як і ў іншых пытаннях, было знойдзена поўнае ўзаемаразуменне.*

**Цэнтральная выбарчая камісія Расіі пакінула без задавальнення зварот віцэ-прэм'ера У.Шумейкі аб адмене пастановы Цэнтрвыбаркома аб рэгістрацыі федэральных спісаў кандыдатаў у дэпутаты, вылучаных аб'яднаннямі "Камуністычная партыя РФ" і "Дэмакратычныя партыі Расіі". У.Шумейка настойваў на тым, каб зняць з рэгістрацыі гэтыя аб'яднанні, якія заклікалі прагаласаваць супраць праекта Канстытуцыі.**

*Група экспертаў міністэрства па справах акаляючага асяроддзя ФРГ расследуе абставіны вывазу нямецкімі фірмамі ядавітых адыходаў на Украіну. Група наведала горад Роўна, дзе было выяўлена каля 230 тон ядавітых адыходаў, што вывезены з Германіі.*

**У Пінску завяршыўся чэмпіянат рэспублікі па шахматах сярод інвалідаў з парушэннем апорна-рухальнага апарата. Моцную гульню паказаў першаразраднік з Віцебска В.Рыбкін. За тур да канца спаборніцтваў ён забяспечыў сабе першае месца. Яго вынік — 6,5 ачка з 7 магчымых.**

*Расійскае акцыянернае таварыства "Газпром" набыло кантрольны пакет акцый венгерскага завода па вытворчасці нафта- і газаздабываючага абсталявання.*

**У горадзе Ленінску ў Казахстане закончыўся суд над зачыншчыкамі масавых беспарадкаў у будаўнічых часцях, што абслугоўвалі касмадром Байканур. Гэта здарылася ў ноч з 3 на 4 чэрвеня. У беспарадках актыўны ўдзел прынялі каля 500 чалавек. Былі падпалены будынкі казарм, штабоў, разграблены склады, магазіны. Страты, па розных ацэнках, склалі ад 60 да 100 мільёнаў рублёў у цэнах чэрвеня. З 15 зачыншчыкаў беспарадку толькі двое асуджаны ўмоўна, астатнія прыгавораны ад некалькіх гадоў да 12.**

*У Гомелі раскрыта злачынная група, якая гандлявала жывым таварам. Пад выглядам мадэльерш, натуршчыц, хатніх работніц пастаўляліся ў Ізраіль гомельскія прастытукі. За дачу і атрыманне хабару, крадзеж і падробку зарубежных пашпартоў, незаконны выезд за граніцу, утрыманне прытонаў і зводніцтва арыштаваны 10 чалавек. Сярод іх работнікі АВІР УУС Гомельскага аблвыканкома.*

**Нечаканая спадчына — двухпакаёвая кватэра — чакае ў будучым жонку былога прэзідэнта СССР Раісу Гарбачову. Так распарадзілася ў сваім завяшчанні жыхарка г. Пермі. Блізкіх родзічаў у яе няма, таму яна вырашыла завяшчаць кватэру жанчыне, якой шчыра захаплялася.**

Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх і замежных газет.

♦ *ПРАФСАЮЗЫ*

### Аргпытанні — таксама

Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык пабываў днямі ў Віцебску, дзе наведаў завод "Мегом", арэнднае прадпрыемства "Візас", прыняў удзел у пасяджэнні прэзідыума абласнога аб'яднання прафсаюзаў, на якім разглежаны пытанні маючага адбыцца пасяджэння савета абласнога аб'яднання прафсаюзаў. Не выключана, што на гэтым форуме будзе вырашаны і шэраг кадравых пытанняў.

М.РАПЕЦКАЯ.

# СІТУАЦЫЯ

АД НАШЫХ УЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

Эдуард ДАМАРАЦКІ ШУМІЛІНА

## ХТО ВІНАВАТЫ І ШТО РАБІЦЬ?

Апошнім часам усё больш і больш трывожных паведамленняў паступае ў Шумілінскі карэспандэнцкі пункт "Віцебскага рабочага" ад працаўнікоў мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый. І пераважная большасць іх датычыць сур'ёзнага крызісу ў жыцці калектываў, далейшага лёсу людзей працы. На мяжы спынення знаходзіцца мясцовы сырзавод... Вялікія эканамічныя цяжкасці перажывае райсельгастэхніка... Прастойваюць без работы людзі і магутныя машыны ў райсельгасхіміі... Доўгі час не могуць наскрэбці грошай на зарплату будаўнікі... Напаўсілы вымушаны працаваць механізатары ў калгасах і саўгасах. І людзям у большасці вельмі цяжка зразумець, адкуль звалілася на іх такая напасць, чаму наша магутная краіна за неверагодна кароткі час ператварылася ў нейкую жабрацкую ласкутную коўдру.

Раней чытачы газеты звычайна прасілі расказаць аб тым ці іншым негатыўным факце, спадзяваліся, што ўжо гэта дапаможа хоць неяк выправіць становішча. Цяпер жа жыццё радавога люду ператварылася ў суцэльны кашмар, аднолькавыя нягоды зваліліся на пераважную большасць працоўных калектываў, і многія мае субяседнікі ўсё часцей і часцей ставяць пытанне інакш: яны хочуць прачытаць на старонках газеты, хто вінаваты ў развале эканомікі, што трэба рабіць, каб вярнуць хоць больш-менш людскае жыццё.

Размаўляю з дырэктарам Шумілінскага сырзавода М.А. Пісьменным, цікаўлюся станам спраў на прадпрыемстве. Мікалай Аляксеевіч пацвярджае, што малако з расна сапраўды даводзіцца адпраўляць на перапрацоўку ў Віцебск, што 300 тон выдатнага сыру не знаходзіць збыту, што ў канцы лістапада калектыў не атрымаў яшчэ зарплату за кастрычнік...

І возяць малако ў абласны цэнтр не з-за недахвату ўласных вытворчых магутнасцей, а з-за адсутнасці паліва для кацельні. Сыр ляжыць на прадпрыемстве не таму, што не карыстаецца попытам, а па той празаічнай прычыне, што ў спажыўцоў няма чым за яго плаціць. А не знаходзіць збыту гатовая прадукцыя — няма грошай не толькі на тое, каб разлічвацца з мясцовымі калгасамі і саўгасамі за пастаўляемае штодзень малако, але няма іх і на зарплату. Нейкае зачараванае кола, ці не праўда? Сырзавод вінаваты дзесяткі мільёнаў рублёў пастаўшчыкам, яшчэ больш вінаваты спажыўцы гатовай прадукцыі сырзаводу.

Мікалай Аляксеевіч Пісьменны расказаў, што толькі за апошнія месяцы цана на мазут для кацельні падскочыла неверагодна і дасягнула ўжо 400 тысяч рублёў за тону. Асабліва спрыяюць гэтаму змяненні курсу рубля да нашых "зверанят", які адвольна ўстанаўлівае наш Дзяржаўны банк. Таго ж мазуту на суткі нармальнай работы сырзаводу патрабуецца каля дзесяці тон. А гэта цяпер — многія мільёны рублёў. А тут яшчэ мясцовыя электрыкі запатрабавалі плату за энергію па ўстаноўленаму Дзяржбанкам курсу.

— Так што палкі ў колы, — гаворыць кіраўнік прадпрыемства, — нам ставіць у першую чаргу наша роднае кіраўніцтва.

Падобныя вывады можна пачуць і ў многіх працоўных калектывах. Кіраўніцтва ў нас, спраўды, яшчэ тое, як нехта пажартаваў, без Знака якасці. Ды каб толькі ў нашай рэспубліцы, каб толькі ў цяперашні час...

Некалькі дзён назад уключыў я радыёпрыёмнік і натрапіў на перадачу "Вакол свету" вядомай амерыканскай радыёстанцыі "Свабода". Вядучая перадачы абмяркоўвала з адным з заходніх палітолагаў артыкул з уплывовай англійскай газеты. І аб чым, вы думаеце, ішла гаворка? Гаворка ішла, аб тым, што Захад ні ў якім разе не павінен дапусціць збліжэння і аб'яднання былых рэспублік Савецкага Саюза. Бо краінам Захаду, маўляў, не варта мець зноў побач такой магутнай дзяржавы, якой раней была Краіна Саветаў.

І ці варта здзіўляцца, што гэтыя "змагары" за законнасць, за няўхільнае захаванне міжнародных пагадненняў нібы вады ў рот набралі, калі некалькі так званых "пушчыстаў" развалілі СССР, адным росчыркам пяра перакроілі дзяржаўныя межы, груба ігнаруючы нават хельсінкскія пагадненні аб іх непарушнасці. Віскулёўскія падпісанты ад нашай рэспублікі (былі там падобныя кіраўнікі і з іншых рэспублік — самі ведаеце) імкнуцца ўсяляк даказаць, што іншага выйсця не было, што да гэтага вымусіў гістарычны ход падзей. Але ж давайце паглядзім, хто гэты ход падштурхоўваў, хто імкнуўся на працягу дзесяцігоддзяў знішчыць Савецкі Саюз як адзіную магутную дзяржаву, раз'яднаць народы, якія жылі разам стагоддзі. Калі не верыце некаторым нашым рэальна думаючым палітыкам, давайце звернемся да першакрыніц, прадаставім слова вельмі вядомым і ўплывовым заходнім дзяржаўным дзеячам. Прыводжу даслоўна, на мове арыгінала, першы абзац з не такой ужо даўняй публікацыі "Комсомольской правды" пад загалоўкам "Речь Дж.Буша на XXXV очередном съезде республиканской партии".

"Долгожданная речь Джорджа Буша, — гаворыцца ў публікацыі, — о которой так долго говорили республиканцы, произнесена. В ней среди достижений в области внешней политики он отметил тот факт, что "Советский Союз можно найти только в учебниках истории". "Не впадайте в заблуждение — распад коммунизма не был безусловным явлением, для этого потребовалось сильное руководство со стороны президентов, представлявших обе партии. Без их прозорливости и помощи американского народа Советский Союз и сегодня был бы сильной сверхдержавой и мы бы смотрели в лицо ядерной угрозе", — отметил президент".

Пра ядзерную пагрозу Дж.Бушу лепш бы памаўчаць: Савецкі Саюз, у адрозненне ад ЗША, ні на адзін горад атамныя бомбы не скідваў. А вось за астатнюю інфармацыю, што датычыць дзейнасці амерыканскіх прэзідэнтаў, накіраванай на развал Савецкага Саюза, вялікае дзякуй. Да гэтага, прызнаюся сумленна, я не вельмі верыў у дакладнасць публікацыі ў адной з расійскіх газет аб езуіцкай праграме шэфа ЦРУ Алена Далеса, сакрэтна распрацаванай ім у далёкім 1945 годзе. Паколькі пераважная большасць маіх субяседнікаў, як высветлілася пры размовах, праграмы гэтай не ведае, тую публікацыю карысна прывесці поўнасцю, бо многім чытачам азнаёміцца з ёй зусім не пашкодзіць — яна на нашу невясёлую сучаснасць пралівае святло.

"Посеяв в Советском Союзе хаос, — разважаў шэф амерыканскай разведкі, — мы незаметно подменим их ценности на фальшивые и заставим их в эти фальшивые ценности верить. Как? Мы найдём своих единомышленников, своих союзников и своих помощников в самой России.

Эпизод за эпизодом будет разыгрываться грандиозная по своему масштабу трагедия гибели самого непокорного на земле народа, окончательного, необратимого угасания его самосознания... Литература, театры, кино — все будет прославлять и прославлять самые низменные человеческие чувства. Мы будем всячески поддерживать и поднимать так называемых художников, которые станут насаждать и вдалбливать в человеческое сознание культ секса, насилия, садизма, предательства — словом, всякой безнравственности. В управлении государством мы создадим неразбериху... Мы будем незаметно способствовать самодурству чиновников, взяточников, беспринципности. Бюрократизм и волокита будут возводиться в добродетель... Честность и порядочность будут осмеиваться и никому не будут нужны, превратятся в пережиток прошлого. Хамство и наглость, ложь и обман, пьянство и наркомания, животный страх друг перед другом и беззастенчивость, предательство, национализм и вражду народов, и прежде всего вражду и ненависть к русскому народу, — все это мы будем ловко и незаметно культивировать, все это расцветет махровым цветом.

И лишь немногие, очень немногие будут догадываться или даже понимать, что происходит. Но таких людей мы поставим в беспомощное положение, превратим в посмешище, найдем способ оболгать, объявить отбросами общества..."

Ці не здаецца вам, паважаныя чытачы, што з некаторага часу мы адзін да аднаго, на ўсе сто працэнтаў, а можа, нават і больш, жывём па тых д'ябальскіх прадвызначэннях былога шэфа ЦРУ? І ці не думаеце вы, што найвялікшая наша бяда (і віна таксама!), што няма ў нас моцнага і прадбачлівага ні прэзідэнта, ні кіраўніка Вярхоўнага Савета, ні Старшыні Савета Міністраў? Гэта ж хацелася крыкам крычаць пасля мінулагодняга даклада на сесіі Вярхоўнага Савета старшыні КДБ Беларусі Эдуарда Шыркоўскага аб карупцыі ў рэспубліцы. У дакладзе, у прыватнасці, рабіліся вывады аб тым, што разбазарванне, раскраданне нацыянальнага багацця, карупцыя, спекуляцыя і хабарніцтва дасягнулі ў рэспубліцы нябачных памераў, што робяць усё гэта высокія дзяржаўныя мужы, якія не лічацца з законамі, вядуць мэтанакіраваны грабеж людзей, а ў выніку самая магутная ў рэспубліцы партыя — альянс карумпіраваных чыноўнікаў і казнакрадаў.

Як вы думаеце, пасля таго што-небудзь змянілася? Правільна, змянілася. Толькі змены тыя адбыліся ў яшчэ горшы для абрабаванага народа бок.

Дык хто ж ва ўсім гэтым вінаваты? Як бачна з усяго сказанага, у першую чаргу, на мой погляд, вінавата наша кіраўніцтва — і былое, саюзнае, і тым больш цяперашняе, рэспубліканскае. Бо тое, што планавалі нашаму народу самыя злыя яго ворагі (а інакш Алена Далеса з яго вар'яцкім планам не назавеш), на вялікі жаль, збылося. І збылося толькі таму, што з пэўнага часу нашы саюзныя кіраўнікі забыліся на ранейшыя ідэалы і пайшлі ў рознага роду далесаў на кароткай шворцы. А цяперашнія кіраўнікі планы Далеса рашылі, напэўна, значна перавыканаць: нават маючы меймаверна горкі вопыт памылак сваіх папярэднікаў, яны працягваюць піхаць народ у бездань, з якой наўрад ці давядзецца выбрацца. І кіруюцца пры гэтым зноў жа падказкамі розных замежных "спецыялістаў".

І другое пытанне — што рабіць, каб вярнуць хоць больш-менш людскае жыццё? Адказ ёсць і на яго: у першую чаргу неабходна выбраць (і як мага хутчэй!) дастойных кіраўнікоў рэспублікі, якія б не толькі не рабілі відавочных прыкрых памылак і пралікаў, але многае, як таленавіты шахматыст пралічвалі б на шмат хадоў наперад. І кіраваліся б пры гэтым толькі інтарэсамі свайго народа.

Спытаецеся, як такое ажыццявіць, дзе такіх кіраўнікоў знайсці? А гэта ўжо, паважаныя, зусім іншае пытанне. І над ім давайце падумаем сумесна.

## У Расію-матухну

Яшчэ на пачатку гэтага года, пэўна, нікому б і ў галаву не прыйшло, што Расія стане для беларусаў у некаторым сэнсе "другой Польшчай". Што менавіта ў Расію нашы камерсанты будуць цягнуць на продаж усё што можна і што нельга. "Накармілі" Польшчу, а зараз даводзіцца карміць маці-Расію.

Нездарма ходзяць чуткі, што палякі "плачуць". Бо вельмі прывучыліся за гады нашага так званага пераходнага перыяду да рынку набываць танны беларускі тавар. А цяпер колькасць камерсантаў-гандляроў на Польшчу скарацілася. Гэта звязана не толькі са складанасцямі ў афармленні выязных дакументаў, коштам камерцыйных паездак і г.д., але, хутчэй за ўсё, з тым, што сёння больш выгадна ехаць гандляваць побач з домам, у Расію. І мова зразумелая, і месцы знаёмыя...

Толькі з Віцебска за апошнія некалькі месяцаў адкрыты аж 18 камерцыйных аўтобусных маршрутаў у расійскія гарады. Дарэчы, рэйсавых маршрутаў, якія існавалі і раней, усяго 5.

| *Накірунак* | *Час адпраўлення з Віцебска* | *Кошт білета* (бел.руб.) | *Дні курсіравання* |
|---|---|---|---|
| Вялікія Лукі | 7.55 | 4180 | штодзённа |
| Пскоў | 13.20 | 8650 | " |
| Смаленск | 8.00; 14.00 | 3430 | " |
| Веліж | 6.50; 15.30 | 2300 | " |
| Невель | 10.30 | 2525 | " |

Астатнія ж маршруты камерцыйныя.

| *Накірунак* | *Час адпраўлення з Віцебска* | *Кошт білета* (бел.руб.) | *Дні курсіравання* |
|---|---|---|---|
| Бранск | 21.00 | 13475 | па пятніцах |
| Пскоў | 22.00 | 12110 | па чацвяргах, пятніцах і суботах |
| Ноўгарад з заездам у Старую Русу | 17.00 | 17850 да Ноўгарада, 14000 да Ст.Русы | па пятніцах |
| Дзямідаў з заездам у Веліж | 3.30 | 5250 да Дзямідава 3500 да Веліжа | па суботах, нядзелях |
| Апочка | 1.00 | 7525 | па нядзелях |
| Рослаўль | 0.05 | 8750 | па суботах |
| Наваржэў | 23.00 | 10850 | па суботах |
| Сафонава з заездам у Смаленск | 0.05 | 8750 да Сафонава 4795 да Смаленска | па суботах |
| Тарапец | 0.05 | 10500 | па нядзелях |
| Ельня | 0.05 | 8750 | па нядзелях |
| Вялікія Лукі | 3.20 | 5845 | па чацвяргах, суботах, нядзелях |
| Нялідава | 22.00 | 11900 | па пятніцах |
| Ржэў | 21.00 | 14000 | па пятніцах |
| Санкт-Пецярбург | 16.30 | 23100 | па серадах і пятніцах |

*(Па гэтым маршруце білет назад у Віцебск прадаецца толькі за расійскія рублі і каштуе 6.600 рублёў)*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Калуга | 20.30 | 15925 | па пятніцах |
| Цвер | 19.00 | 18725 | па пятніцах |

Як паведамілі нам у аддзеле пасажырскіх перавозак Віцебскага аўтапарка, на сённяшні дзень любы жадаючы можа без праблем набыць білет на Расію. Запаўняльнасць аўтобусаў складае больш за 50%. А калі ўзнікне неабходнасць, будуць адкрывацца дадатковыя рэйсы.

Выгадная, відаць, такая камерцыя не толькі гандлярам, але і нашым транспартнікам. Бо ёсць прыбытак. А калі ёсць грошы, не будзе праблем ні з палівам, ні з запчасткамі. Гандляры ж, атрымаўшы ад паездак у Расію пэўны прыбытак, не адчуюць на сабе цяжкасці ў набыцці кавалка хлеба ці мяса. А што рабіць людзям, якія жывуць на жабрацкую зарплату ці пенсію?! Варта, відаць, падумаць аб гэтым не толькі ўладам, але і самім гандлярам-камерсантам...

Ганна ПЛАТОНАВА.

◆ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ: ЗЛОБА ДНЯ

## Хто шукае, той знаходзіць

У сотні адрасоў адпраўляў калісьці сваю прадукцыю Полацкі завод шкловалакна. А цяперашняе вытворчае аб'яднанне "Шкловалакно" затаварылася прадукцыяй, якая перастала карыстацца попытам. Яна ніколькі не пагоршылася, нават і лепшая. У свой час полацкая марка шклотканіны ішла на цеплаізаляцыю савецкага касмічнага карабля шматразовага выкарыстання "Буран". Але сёння не стала заказаў ні ад ведамстваў, якія займаюцца касмічнай навукай, ні ад абароннай галіны, ні ад прадпрыемстваў мірнага профілю, што апынуліся ў замежжы, і цяпер, выплываючы з крызісу, рэзка скарачаюць вытворчасць, адмаўляюцца ад ранейшых партнёраў.

Рынак прымушае па-новаму ставіцца да праблемы збыту. Трэба выпускаць прадукцыю, якая знайшла б новага спажыўца. Значыць, трэба мяняць асартымент. І ў вытворчым аб'яднанні вельмі сур'ёзна задумаліся аб гэтым. Канструктары, інжынеры распрацоўваць новыя ўзоры тавараў, на якія будзе попыт і неабавязкова ў навукова-касмічным ваенна-прамысловым комплексе.

Разам з італьянскай фірмай А-Джы-Ві пачаты выпуск шклапластыкавых шлемаў для мотаспорту. Гэта тавар высокага сусветнага класа.

Ідзе праца над іншымі вырабамі. Нараджаецца шклотканіна, якая будзе прыдатная для парнікоў. Дастаткова празрыстая, каб прапускаць патрэбныя раслінам промні сонечнага святла, не горшая па гэтай якасці, чым поліэтыленавая плёнка, але ў некалькі разоў больш трывалая. Парнік пад такім пакрывалам не трэба будзе абнаўляць гадоў 5—10. Мяркуецца, што такая шклотканіна паявіцца ўжо да новага сезона ў агароднікаў.

Распрацоўваецца шклотэкстыльная сетка для тынкоўкі. Навінку ацэняць будаўнікі: будзе дадатковая якасць і трываласць аддзелкі.

Рынак не дае спаць. А магчымасцей для расшырэння збыту ў вытворчага аб'яднання многа.

Г.КІРЫЛАЎ.

# ЧЫТАЧ-ГАЗЕТА

## Ільготы ветэранам у падаткаабкладанні

*Яшчэ летам Вярхоўны Савет нашай рэспублікі ўнёс змяненні ў Закон "Аб ветэранах" у частцы падаткаабкладання. Што гэта за змяненні?*

П.ІВАНОЎ.

г.Віцебск.

З 1 ліпеня гэтага года ўведзены ў дзеянне артыкул 21 Закона "Аб ветэранах". Згодна з ім ільготы, прадугледжаныя дзеючым заканадаўствам для ўдзельнікаў вайны, распаўсюджваюцца на грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія прымалі ўдзел у рухах Супраціўлення на тэрыторыі іншых дзяржаў, а таксама замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях у складзе Савецкіх Узброеных Сіл, адпаведных вайсковых падраздзяленняў, партызанскіх атрадаў, злучэнняў, падпольных арганізацый. А таксама на інвалідаў з дзяцінства ў выніку ранення, кантузіі і калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны або з іх вынікамі, грамадзян Рэспублікі Беларусь — былых непаўналетніх вязняў фашысцкіх канцлагераў, гета і месц прымусовага ўтрымання, створаных фашысцкай Германіяй і яе саюзнікамі ў перыяд другой сусветнай вайны, былых непаўналетніх вязняў канцлагераў.

З 1 ліпеня гэта катэгорыя грамадзян карыстаецца льготай па зямельнаму падатку, устаноўленай артыкулам 19 Закона "Аб плацяжах на зямлю", для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

Упершыню па даходах, якія атрыманы з 1 ліпеня, прадастаўлена льгота па падаходнаму падатку, устаноўленаму для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, былым непаўналетнім і сталым вязням фашысцкіх канцлагераў.

Па плацяжах, налічаных падатковымі органамі, дакументы аб праве на льготы прадастаўляюцца апошнім, а па даходах (заработнай плаце), якія атрыманы на прадпрыемстве, у аб'яднанні ці арганізацыі, — у бухгалтэрыі па месцы выплат.

Згодна з Законам "Аб падаходным падатку з грамадзян", для бацькоў і жонак ваеннаслужачых, якія загінулі ў выніку ранення, кантузіі і калецтва, атрыманых пры абароне Радзімы або пры выкананні іншых абавязкаў ваеннай службы са знаходжаннем на фронце, прадастаўлена льгота на 50 працэнтаў па ўсіх атрыманых даходах.

♦ *ВОПЫТ, ВАРТЫ ПЕРАЙМАННЯ*

# Зямельная рэформа: шляхі і практыка яе вырашэння

За апошні час мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў вобласці праведзена значная работа па пераразмеркаванню зямлі, стварэнню ўмоў развіцця розных форм гаспадарання на ёй. Больш чым на 83 тысячы гектараў ворыва павялічаны асабістыя падсобныя гаспадаркі сельскіх жыхароў, сярэдні размер якіх склаў 0,73 гектара, супраць 0,44 гектара да рэформы. Для індывідуальнага і калектыўнага дачнага будаўніцтва, садаводства і агародніцтва прадастаўлена звыш 13 тысяч гектараў, будаўніцтва і абслугоўвання жылых дамоў грамадзянам гарадоў — 511 гектараў. Створана 720 сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, якім выдзелена больш за 12 тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Такім чынам, плошча зямельных угоддзяў калгасаў і дзяржгасаў зменшылася на 249,7 тысячы гектараў, або на 15,3 працэнта.

У цяперашні час у вобласці каля 500 тысяч землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў, у тым ліку звыш 475 тысяч грамадзян, у якіх ёсць зямельныя ўчасткі для будаўніцтва і абслугоўвання жылых дамоў, вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, дачнага будаўніцтва, садаводства і агародніцтва.

Есць у гэтай справе, зразумела, і недапрацоўкі. Нярэдка парушаюцца тэрміны разгляду заяў грамадзян, парадак прадастаўлення і канфіскацыі зямель, прадастаўлення зямельных участкаў для ўнутрыгаспадарчага будаўніцтва, распрацоўкі кар'ераў, няма належнага кантролю за рацыянальным выкарыстаннем і аховай зямель.

У гэтай сувязі заслугоўвае ўвагі практыка работы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Шаркаўшчынскага раёна па захаванню замельнага заканадаўства рэспублікі. Тут для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі грамадзянам выдзелена 2260 гектараў ворыўных угоддзяў.

Задавальняюцца патрэбы ў зямельных участках грамадзян гарпасёлка Шаркаўшчына. Акрамя выдзялення ворыўных угоддзяў для расшырэння асабістых падсобных гаспадарак жыхарам райцэнтра, на дагаворных асновах з калгасамі і саўгасамі, шэфстуючым арганізацыям і ўстановам выдзелена для вырошчвання збожжавых, бульбы, агародніны 500 гектараў ворыва і 23 гектары — пенсіянерам.

Сельскія жыхары цалкам забяспечаны сенакоснымі і пашавымі ўгоддзямі. З гэтай мэтай выдзелена 7,4 тысячы кармавых угоддзяў, або па 1,06 гектара на ўмоўную галаву.

У раёне добра наладжан улік па наяўнасці і размеркаванню зямель, праведзена замацаванне за жыхарамі (дварамі), якія маюць асабістую жывёлу сенакосных і пашавых угоддзяў. Практычна ўсе землі у межах населеных пунктаў ахоплены падаткаабкладаннем.

За апошнія дваццаць год у раёне не дапушчана скарачэння плошчы сельгасугоддзяў і зніжэння іх якасных паказчыкаў. Унутрыгаспадарчае і іншае будаўніцтва вядзецца толькі пасля афармлення адпаведных дакументаў.

Наладжан кантроль за своечасовым вяртаннем зямель, адведзеных у часовае карыстанне торфаздабываючым прадпрыемствам, райсельгасхіміі і іншым арганізацыям.

Ажыццяўляецца мэтанакіраваная работа па прыцягненню ў эфектыўнае выкарыстанне ворыўных зямель на грамадскіх дварах, прыдарожных палосах, жывёлапрагонах і выпасах у населеных пунктах. Па выніках праверкі, праведзенай аддзелам па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню райвыканкома, выяўлена 250 гектараў такіх зямель, з якіх 129 гектараў ужо ўключаны ў севазварот.

Знаходзіцца пад кантролем выкарыстанне зямель, перададзеных у веданне сельскіх Саветаў. Гэта пытанне разгледжана на сесіях Саветаў, а па двух — на выканкоме раённага Савета народных дэпутатаў.

У раёне прымаюцца практычныя меры па эфектыўнаму выкарыстанню зямель, што знаходзяцца ва ўладанні, карыстанні грамадзян. Перш за ўсё вырашаецца найбольш надзённае пытанне аказання практычнай дапамогі па апрацоўцы, догляду, уборцы ўраджаю, забеспячэнню пасяўным і пасадачным матэрыялам.

Работа гэтая выконваецца калгасамі і саўгасамі пад кантролем сельскіх Саветаў. Так, у Станіславоўскім сельскім савеце калгас "Іскра" выдзеліў насенне азімай пшаніцы і ячменю, за 5—7 дварамі замацаваны конь. У калгасе "Шлях Леніна" для абслугоўвання насельніцтва замацаваны два трактары, два камбайны. Гаспадаркамі вядзецца догляд паш, выдзелены электрапастух. Для аказання дапамогі жыхарам райцэнтра вызначаны арганізацыі і прадпрыемствы, якія абавязаны, па заяўках грамадзян, прадастаўляюць ім тэхніку, коней.

Добра наладжан догляд меліяраваных каналаў. Яны ўчасткамі раздадзены насельніцтву для сенакашэння. Ажыццяўляецца праграма падтрымкі фермерскіх гаспадарак, у шасці праведзена меліярацыя, у васьмі — будаўніцтва дарог, электразабеспячэнне, аказваецца дапамога па забеспячэнню ГЗМ, тэхнікай, насенным матэрыялам.

Пры мясцовых Саветах створаны і працуюць зямельныя камісіі. Наладжан кантроль за выкананнем рашэнняў Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі, абласнога Савета і сваіх уласных. Толькі на выканкоме райсавета рэгуляванне зямельных адносін разглядалася 29 разоў, а па асобных пытаннях у парадку кантролю — двойчы.

Мэтанакіраваную каардынуючую кансультацыйную і практычную работу праводзіць аддзел па зямельнай рэформе райвыканкома. У кожным сельскім Савеце ёсць папка з нарматыўнымі дакументамі, якая своечасова абнаўляецца ў сувязі з паступленнем новых.

Спецыялісты аддзела стараюцца прадумана вырашаць узнікаючыя складаныя пытанні. Так, ёсць прапановы па выдзяленню зямельных участкаў для выпасу і сенакашэння жыхарам райцэнтра. Прапрацоўваецца пытанне паляпшэння выкарыстання калгасных лясоў.

Распачата падрыхтоўчая работа па прыватызацыі зямельных участкаў у сувязі з уступленнем у сілу з 1 верасня 1993 года Закона Рэспублікі Беларусь "Аб праве ўласнасці на зямлю". Цяпер вырашаецца пытанне аб увядзенні ў штаты сельскіх Саветаў спецыялістаў, якія непасрэдна займаліся б гэтай праблемай.

**В.ВАШКЕВІЧ,**
начальнік аддзела па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню аблвыканкома.

# ШКОЛА — ПАРТНЁР САЎГАСА

Яшчэ толькі вучыліся вымаўляць слова "арэнда" і ў кабінетах улады не было агульнага меркавання — сур'ёзна трэба ўспрымаць новаўвядзенне ці як абмылку кіруючых вярхоў, — дырэктар Азінскай сярэдняй школы Полацкага раёна Зыгмунт Ігнатавіч Саблеўскі, пасля парады з настаўніцкім калектывам, звярнуўся да адміністрацыі мясцовага саўгаса з просьбай здаць у арэнду школе 20 гектараў зямлі. І вось ужо пяць гадоў дамова спраўна працуе на двухбаковую карысць.

Не было года, каб арэнднае поле не прыносіла добрага ўраджаю, здымаючы з саўгаса ладную турботу, даючы прамую выгаду ў выглядзе прыбытку. А школа мае нялішнія і раней, а цяпер тым больш, грошы на свае выдаткі. А ў дадатак — на гэтым упаўне сур'ёзным, дзелавым супрацоўніцтве ідзе пачатковае прафесійнае навучанне старшакласнікаў. Хлопцы выходзяць са школы з навыкамі трактарыстаў. На арэндным полі яны праходзяць практычную загартоўку. Праца на 20-ці гектарах, у якой яны прымаюць непасрэдны ўдзел разам з настаўнікамі і пад іх кіраўніцтвам, наглядам і апекай, становіцца не проста здачай заліку, а канкрэтным выкананнем дагаворных абавязацельстваў перад саўгасам. Тут важна не толькі, якую адзнаку заробіш у класны журнал і ў дзённік, а і што зробіш для ўраджаю, колькі заробіш грошай для школы і, значыць, для сябе.

З 1967 года, уласна, з таго часу, як прыйшоў у Азінскую СШ дырэктарам З.І. Саблеўскі, тут была створана вучнёўская вытворчая брыгада. У той час быў моцны ўхіл на прафесійную арыентацыю, сярэдняя адукацыя мела спадарожную, ледзьве не другую па важнасці задачу — выхаванне спецыялістаў для горада і сяла. Многа мод і пачынаў прайшло ў нашай сістэме адукацыі. Адшумелі і патроху канулі ў мінулае вучнёўскія вытворчыя брыгады. А ў Азіне яна так і засталася. Бо ўжо зрабілася нечым арганічным, патрэбным для навучання і выхавання. Праца разумная, пасільная праца павінна заставацца ў арсенале школы. І яе фармалізацыя, прафанацыя, што нярэдка назіраліся, вялі разам з іншымі фактарамі да таго, што моладзь пачынала траціць уласцівыя дзядам і бацькам, патрэбныя кожнаму чалавеку, працоўныя навыкі, а з гэтым і пайшлі нярэдкія ў наш час негатыўныя праявы сярод юнакоў і дзяўчат.

З вучнёўскай вытворчай брыгады нарадзіўся вучнёўскі арэндны калектыў. Працуе ён як раўнапраўны партнёр саўгаса. І апраўдвае сябе. У сёлетнім годзе, напрыклад, на дваццаці гектарах атрымалі 320 тон бульбы. Паказчык ураджайнасці вышэй за сярэднераённы. Гэта прытым, што месцамі бульба вымакла — не вельмі спрыяльнымі выдаліся ўмовы. У лепшую пару і якасна ўбралі школьнікі клубні. Падахвочвалі не толькі заклікі да работы, а і просты, пераканальны разлік: за падбор клубняў за капалкай — 2 рублі за вядро, за накапаны кілаграм з-пад плуга, месцамі ў нізкіх месцах капалка не ішла, — 5 рублёў за кілаграм. Ніякага страху, калі вучань лічыць свае сумленна заробленыя грошы. Наадварот, толькі на карысць і яму, і сям'і, і грамадству.

Цяпер у школьным гаражы тры трактары "Беларусь", адзін Т-40, поўны набор прычапных прылад да іх, тры прычэпы. Запчасткамі, палівам і патрэбнымі паслугамі забяспечвае тэхніку саўгас. За грошы, зразумела, а калі-небудзь і ў парадку шэфства бясплатна. За тэхнікай глядзяць, канечне, дарослыя спецыялісты адпаведнай кваліфікацыі. Ужо каторы год у штаце школы інжынер-механік па прафесіі адначасова і трактарыст, і шафёр М.В.Лукша. Ен лічыцца намеснікам дырэктара па арэндзе, разам з тым і выкладчык, і выхавальнік. Настаўнік фізікі В.В.Шыкуцкі таксама добры шафёр і трактарыст, гэтак жа, як і настаўнік хіміі А.Д.Фядура. Натуральна, на рукі гэтых людзей прыпадзе галоўны цяжар клопату аб тэхніцы, аб арганізацыі работы на школьнай зямлі. Вялікая частка работы выконваецца і старшакласнікамі, якія пасля заканчэння вучобы атрымліваюць навыкі трактарыстаў.

З леташняга года школа ўзяла яшчэ 15 гектараў зямлі. Дакумент на яе быў афармлены ў райвыканкоме. Ею школа распараджаецца сама. Сёлета на ёй вырошчвалі збожжавыя. З гэтай плошчы атрыманы даход у суме 2,5 мільёна рублёў.

Ёсць пры дзесяцігодцы традыцыйны прышкольны доследны ўчастак. Як і паўсюль, ён невялічкі. На ім дзеці вырошчваюць капусту, моркву і розную іншую агародніну. Штогод з некалькіх сотак атрымліваюць важкі ўраджай. Так сталася і сёлета. У дастатку забяспечана сталовая, было што прадаць і мясцоваму насельніцтву.

У апошні час урэзаны асігнаванні на патрэбы школ. У Азінскай СШ няхваткі кампенсуюцца са свайго рахунка. Абед каштуе каля 25—30 рублёў. Есць магчымасць аказваць дапамогу тым сем'ям, дзе цяжкае матэрыяльнае становішча. А ўдзел вучняў у грамадска карыснай працы дае ім неацэнныя патрэбныя навыкі, прыносіць упаўне адчувальную выгаду і адпаведным чынам рыхтуе да самастойнага жыцця.

**Г.КІРЫЛАЎ.**

Полацкі раён.



♦ *ШТО МАЕМ — ЗАХАВАЕМ?*

# Створым сховішча народнай памяці

Краіны СНД рыхтуюцца да 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У 1994 годзе спаўняецца 50 год з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Многае расказана аб гэтай вайне. Ды не ўсё. А франтавікі — вечная ім памяць! — уходзяць. І вельмі каштоўны для гісторыі, для дзяржавы "прыватны" вопыт абаронцаў Радзімы, іх позірк з акопа, іх подзвіг на безыменнай вышыні.

Сваё справядлівае слова аб перажытым спяшаюцца запісаць ветэраны-патрыёты, захаваць для нашчадкаў і гісторыкаў. І рукапісы іх бессмяротныя. Але.., баюся, што знікнуць марна. Асядуць у прыватных або рэдакцыйных архівах, застануцца ў зоне недаступнасці для навуковага і грамадскага абароту. І памяці народнай не ўмацуюць. А маглі б, для гэтага ж і пісаліся яны рукой ветэрана. Патрэбны, даўно патрэбны фонд салдацкіх мемуараў! Канстанцін Сіманаў марыў і пачынаў, але адзін не асіліў, не паспеў. Можа, дараслі мы да яго светлай ідэі?

А калі шырэй ды сур'ёзна — Дзяржаўны фонд народнай памяці (назва ўмоўная) трэба ствараць. Для краіны і яе будучыні.

З гэтай прапановай, якая наспела з практыкі газетнай работы і патрэб нашых чытачоў, мне давялося звярнуцца ў шэраг ведамстваў Беларусі. Вось вынікі.

Рэспубліканскае Міністэрства інфармацыі — "за". Намеснік міністра Іван Карэнда, які падпісаў адказ, лічыць: пункт аб стварэнні падобнага фонду мог бы заняць ганаровае месца ў распрацоўваемай праграме патрыятычнага выхавання. А дзейнічаць яму лепш у агульнай сістэме Камітэта па архівах і справаводству пры Саўміне Беларусі.

Вышэйназваны камітэт — таксама падтрымлівае цалкам. Намеснік старшыні Эдуард Савіцкі сказаў, што мара чытачоў "Во славу Родины" арганічна спалучаецца з прапановай камітэта аб стварэнні ў краіне самастойнага архіва ваеннай гісторыі. Няхай у ім пад адзіным салідным дзяржаўным "дахам" захоўваюцца ўсе сведчанні аб гераічным мінулым, і Фонд народнай памяці стаў бы, без сумнення, важнай састаўной часткай падобнага архіва.

Бар'еры на шляху рэалізацыі ідэі, аднак, вядомыя — сродкі, плошчы. Камітэт папрасіў разгледзець у Саўміне такі варыянт: выкарыстанне аднаго з выслабаняемых ваенных гарадкоў непадалёк ад сталіцы. На мой погляд, і разумны падыход, і сімвалічны: армейскія казармы, сведкі вернасці пасляваенных пакаленняў салдацкаму абавязку, служылі б і надалей патрыятызму.

Удалося звязацца і з камісіяй Саўміна, якая мае паўнамоцтвы вырашаць падобныя пытанні. Аб просьбе архівістаў Беларусі там ведаюць. І лічаць: дапамога ў стварэнні архіва ваеннай гісторыі можа быць аказана.

Што ж, засталося чакаць...

Вельмі хочацца паведаміць нашым чытачам, франтавікам і іх нашчадкам адрас будучага сховішча народнай памяці. Хоць бы да 50-годдзя Вялікай Перамогі. Гэта была б справа. І рэальная, і па-дзяржаўнаму важная.

**Падпалкоўнік С.ПЯТРОЎ,**
начальнік аддзела ваенна-патрыятычнага выхавання газеты "Во славу Родины".

(Прэс-цэнтр асацыяцыі "Ажур").

# А падарункі будуць сумнымі...

Усе мы чакаем Новага года, звязваем з гэтым святам перамену ў жыцці, здзяйсненне спрадвечных мар і спадзяванняў, прымаем самі і падносім іншым навагоднія падарункі. Але, здаецца, сёлета гэтыя падарункі будуць для многіх сумнымі. І тут маецца на ўвазе не толькі рост цэн на ўсе прадукты і тавары, да чаго мы ўжо неяк сталі прывыкаць.

Стала вядома, што ў віцебскім аб'яднанні "Маналіт" неўзабаве пачнецца скарачэнне штатаў і масавае звальненне работнікаў. Як гэта будзе выглядаць на справе? Вельмі сумна. Так, калі, скажам, на галаўным прадпрыемстве аб'яднання — заводзе радыёдэталей — працуе сёння больш за 6000 чалавек, то ў новым годзе іх прыйдзе на свае рабочыя месцы толькі крыху больш палавіны — 3400. І такіх прадпрыемстваў у нашай вобласці будзе, відаць, нямала. Так што, як бачым, і да падобных навагодніх "падарункаў" нам давядзецца ўсё ж прывыкаць.

**А.ГАРАЎЦОЎ.**

♦ *САДРУЖНАСЦЬ*

# Мінскія грузавікі прадаюць у... Маскве

Беларускія новаспечаныя прадпрымальнікі часта нагадваюць персанажаў казкі, героі якой — палешукі — пабудавалі курную хату, але вельмі ўжо хацелі жыць пры сонечным святле. І нічога лепшага не прыдумалі, як насіць яго у хату мяшкамі. Добра, што вандроўнік падказаў наіўным людзям, што для святла вокны ў хаце патрэбны.

Сёння Мінскі аўтазавод на тэрыторыі былога Саюза — адзіны, хто выпускае грузавікі, якія па экалагічных і тэхнічных характарыстыках Захад пускае да сябе за парог. Ды вось бяда, выпускаць добрыя машыны выпускаем, а прадаваць — не навучаны: у Мінску гатовай тэхнікай затаварылі ўсе заводскія пляцоўкі. І раптам з'явіўся "добры дзядзька" з Масквы і падказаў, як "прасекчы акно гандлю" на расійскі рынак.

Гэта было акцыянернае таварыства "Блок". Маскоўскія акцыянеры дзейнічаюць на аўтамабільным рынку крыху больш за год, але вопыту ў іх было дастаткова, каб пачаць аптовую закупку мінскіх грузавікоў і з прыбыткам збываць іх у Расіі.

Як жа адкрыў "Блок" "залатую жылу" ў Мінску і як узнік камерцыйны саюз з аўтамабілебудаўнікамі Беларусі? На гэтыя пытанні маскоўскага карэспандэнта Белінфарма І.Гаранінай адказвае намеснік генеральнага дырэктара АТ М.Зайцаў:

— Аб тым, што ў Мінску склады затавараны аўтамабілямі, трактарамі, іншай тэхнікай, мы даведаліся з газет. Узнікла ідэя дапамагчы неразваротлівым беларусам у збыце. Трэба сказаць, у Мінску адразу ацанілі выгады ад супрацоўніцтва з намі, ахвотна пачалі прадаваць нам аўтамабілі вялікімі партыямі, вядома, па аптовых цэнах, са скідкай.

Паступова наладзілі кантакты і з Магілёўскім заводам тэнтавых паўпрычэпаў, аўтазаводам у Жодзіна, Цірааспальскім заводам рэфрыжэратараў — пераабсталяванне аўтамабіляў праводзім на працягу двух тыдняў.

Яшчэ і яшчэ раз хачу падкрэсліць, што беларусы выпускаюць добрую тэхніку. І ўсё ж нельга замыкацца выключна на Расіі, трэба выходзіць на заходні рынак, папярэдне, вядома, папрацаваўшы яшчэ над якасцю. Наогул, каб выстаяць такой дзяржаве, як Беларусь, многаму трэба вучыцца, мяняць стыль работы.

**Белінфарм.**

# СЯБРЫНА



Куток старога Віцебска.
Фота Г. ЖУКАВА.

◆ *АДРАДЖЭННЕ*

## ВЯРТАННЕ ЛАСТОЎСКАГА

Змены, якія адбыліся і адбываюцца, знялі і здымаюць забароны з многіх імён. У нас усё часцей згадваецца Вацлаў Ластоўскі. Са спецсховішчаў дастаюцца яго творы. Спецыялісты ўчытваюцца ў напісанае ім. І паўстае з забыцця выдатны дзеяч, літаратар, гісторык, краязнавец, палітык. Зрэшты, палітыкай тады, на пачатку дваццатага стагоддзя, былі проста змушаны займацца ўсе, хто спрычыніўся да ідэі беларускага адраджэння, калі нават усім складам сваёй асобы, як Ластоўскі, быў прызначаны для зусім іншага. Ужо ў Мінску, Лондане вучоныя, беларусазнаўцы правялі спецыяльныя пасяджэнні па спадчыне Ластоўскага. І вось на 110-я ўгодкі ў Наваполацку, у Полацкім дзяржаўным універсітэце адбылася навуковая канферэнцыя на тэму "Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч беларускага адраджэння". Яе арганізатарамі выступілі Міністэрства адукацыі, Полацкі дзяржаўны універсітэт і нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны.

Чаму іменна ў Наваполацку? Невыпадкова, канечне. Бо ініцыятыва канферэнцыі, прысвечанай славутаму дзеячу, сыходзіла з Наваполацка, з тады яшчэ політэхнічнага інстытута. Адной з першых падстаў стала тая, што Ластоўскі — ураджэнец Віцебшчыны. Самы зацікаўлены ўдзел у клопатах аб будучай канферэнцыі прынялі рэктар, доктар тэхнічных навук прафесар Эрнст Бабенка, прарэктар па навуковай рабоце кандыдат тэхнічных навук Уладзімір Ліпскі, дацэнт, кандыдат філасофскіх навук Рыгор Грудніцкі. Дарэчы будзе адзначыць, што Р.Грудніцкі быў адным з заснавальнікаў, а затым і дзейным кіраўніком першага ў вобласці ды і ў рэспубліцы народнага універсітэта беларускай культуры. Гэтаму чалавеку якраз і выпала салідная доля чарнавой арганізацыйнай працы, звязанай з задуманай справай.

Як і спадзяваліся ў Наваполацку, ініцыятыва знайшла самы зацікаўлены водгук у навукова-асветным цэнтры імя Скарыны і яго кіраўніка Адама Мальдзіса.

Знайшліся дабрадзеі, якія выдзелілі сродкі ў дадатак да тых скупых асігнаванняў, адпушчаных на мерапрыемства Міністэрствам адукацыі.

У Наваполацк сабралася даволі вялікая і прадстаўнічая група навукоўцаў з ВНУ нашай рэспублікі, Літвы, Польшчы, Расіі. Цікавымі і змястоўнымі атрымаліся выступленні такіх масцітых вучоных, як Адам Мальдзіс, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Грынчык, Мікалай Міхнюк, Уладзімір Конан з Мінска, Юрый Лабынцаў з Масквы, Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы і не такіх вядомых, як Язэп Янушкевіч, Мікалай Анцыповіч з Мінска, Святлана Палуцкая з Гродна, Алена Ніякоўская з Наваполацка.

Асветленая ў розных праекцыях постаць Ластоўскага прадстала ў сваёй значнасці, складанасці, у супярэчнасцях, у трагізме, а ў цэлым годнай быць у ліку тых, што складаюць нашу нацыянальную гордасць. Яшчэ і цяпер, у пярэдадзень 110-годдзя, былі спробы ў нашым друку ацэньваць гэтага дзеяча адраджэння з класавых пазіцый. Маўляў, залішне ідэалізаваў мінулае, не бачыў сапраўднай дзейснай сілы ў гісторыі і да т.п. Але звычайная прыстойнасць вымагае, думаецца, паглядзець на гэтага чалавека ў тых абставінах, у якіх яму даводзілася жыць і дзейнічаць. Беларуская справа напрыканцы дзевятнаццатага — на пачатку дваццатага стагоддзяў здавалася пахаванай назаўсёды. Так пра гэта пісаў Купала: "Усё прайшло, мінула, як і не было. У капцах паснула, зеллем зарасло". Нават найменне Беларусь ужо афіцыйна не існавала, быў "Северо-Западный край". І вось знаходзяцца людзі, якія ачнуліся ад гэтай замарачы. Сярод іх быў і Вацлаў Ластоўскі. Па рэштках, па зарослых зеллем капцах даводзілася ім узнаўляць былое, вяртаць з небыцця. Ці дзіва, што дакладнае веданне часам замяняла інтуіцыя, здагадка, мара. Ластоўскі, як і іншыя з той плеяды першых адраджэнцаў, быў рамантыкам.

Зрэшты, на гэтай канферэнцыі было якраз паважлівае, аб'ектыўнае стаўленне да творчасці, грамадска-палітычнай дзейнасці і спадчыны Ластоўскага. Цяжка пераацаніць яго ролю ў выданні "Нашай нівы". Падзеяй сталася ягоная кніжка "Кароткая гісторыя Беларусі". Сам аўтар назваў яе кампілятыўнай. Ён збіраў матэрыял з розных даступных крыніц. Як вядома, наша гісторыя, культура аказалася рассеянай паміж Польшчай і Расіяй. Ён сабраў тое, што адносілася да Беларусі, што было чыста беларускае. Ён хацеў сказаць братам-беларусам: і ў нас было мінулае, была і ў нас свая дзяржава. І сказаў гэта доказна, пераканальна. Пасля была кніжка В.Ігнатоўскага па гісторыі Беларусі, паўнейшая, у нечым лепшая. Але першым быў Ластоўскі, і ў гэтым яго неацэнная заслуга. Ён многа працаваў над збіраннем матэрыялаў пра Беларусь па яе гісторыі, этнаграфіі, фальклору. У Коўне ён выдаў грунтоўную працу "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі", адзін зрабіў тое, што пад сілу добраму аддзелу навукова-даследчага інстытута. Тут выйшаў ягоны "Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік". Вялікую працу ён уклаў у падмурак будучай Акадэміі навук Беларусі, з'яўляючыся вучоным сакратаром Інбелкульта.

Канферэнцыя пасведчыла, як слаба яшчэ вядома не толькі масаваму чытачу, але і навукоўцам спадчына Ластоўскага, раскіданая па розных газетах і часопісах, кнігах і брашурах, па сховішчах. Была аднадушна падтрымана думка, што напісанае гэтым аўтарам павінна быць выдадзена ў Беларусі. Пакуль што больш-менш сістэматызаваны збор твораў пабачыў свет толькі за мяжой, у Мюнхене.

У заключны, трэці дзень, група ўдзельнікаў канферэнцыі наведала родныя мясціны Ластоўскага. У дакладзе кандыдата філалагічных навук Язэпа Янушкевіча наконт Каленікаў, дзе нарадзіўся гэты выдатны сын Беларусі, не было поўнай цвёрдасці. Грунтуючыся на некаторых вартых даверу крыніцах ён, аднак, больш схіляўся, што гэтыя Калеснікі павінны быць дзенебудзь паблізу Старога Пагоста, што на Міёршчыне. Але ж іншыя аўтары знаходзяць тыя самыя Калеснікі на Браслаўшчыне, на Глыбоччыне. Выказваюцца меркаванні, што пад Пагостам двара Калеснікі не было, няма яго на старых картах. Але Вітаўт Ермалёнак — заўзяты краязнавец з Міёраў, настаўнік гісторыі тамтэйшай дзесяцігодкі даказаў, што двор там быў і з даўніх часоў, і наглядна паказаў свае доказы — знойдзеныя на аселіцы ўжо спусцелай вёскі пад такой назвай рэшткі кафлі, якія могуць быць аднесены да мінулага стагоддзя. Экскурсія ўсё ж адправілася ў Новы Пагост, а затым дабралася на поле сярод пералескаў, на тое месца, дзе стаяць адзінокія старыя дрэвы, пахілыя, пакінутыя людзьмі будыніны, каб там аддаць даніну пашаны роднаму куту слыннага беларуса.

На канферэнцыі слушна гаварылася, што для канчатковага вырашэння, дзе ж тыя, патрэбныя Калеснікі, варта пашукаць метрычныя кнігі Новапагоцкага касцёла. І яшчэ, думаецца, гісторыкам варта звярнуць увагу на адзін доказ: прозвішча Ластоўскі, досыць рэдкае, сустракаецца толькі паблізу Новага Пагоста.

Прымеркаваныя да 110-х угодкаў Ластоўскага ў часопісе "Маладосць" былі апублікаваны яго паказанні на следстве. Жахліва чытаць "уласнаручныя" сведчанні арыштаванага: "Я создал легенду о самобытности белорусского племени и языка", "Я отказываюсь от всех своих заблуждений о языке и белорусской самобытности", "пропагандировал контрреволюционную идею "крывічэй", смысл которой сводился к тому, что белорусы, мол, не русские, а особое самобытное племя — "кривичи". Як трэба было зламаць чалавека фізічна, маральна, псіхалагічна, каб ён адмовіўся ад таго, што было сэнсам жыцця, сам ад сябе. Як трэба было растаптаць чалавечую годнасць! І ў гэтым яшчэ адзін урок Ластоўскага, горкі ўрок перасцеражэння нам, яго нашчадкам.

**Г.КІРЫЛАЎ.**

◆ *КУЛЬТУРА МОВЫ*

## Як сказаць па-беларуску?

**Са слоўніка фразеалагізмаў З.Санько**

**Проще пареной репы** — Як абаранак з'есці. Як хлеба з маслам з'есці. Як сабаку муху схапіць. Як лапаць сплесці.

**Птичьего молока только нет** — Толькі (адно) смажанага лёду нестае. Адно птушынага малака нестае.

**Пугало гороховое (смешно, некрасиво одетый)** — Хоць у каноплі стаўляй. Патароча салапатая.

**Пускать по ветру** — З ветрам пускаць. На сметнік выкідаць.

**Пускать пыль в глаза** — Туману ў вочы пускаць. Жвір у вочы сыпаць. Чмуту ў вочы пускаць. Ману ў вочы пускаць.

**Пустить на дым (сжечь)** — З дымам (з агнём, з ветрам) пусціць.

**Пустить по миру** — Да торбы давесці. У старцы пусціць. Да пугі давесці. У лапці абуць.

**Пуститься в пляс** — У скокі пайсці. У танок пайсці. У чаравік (у абцасы) даць.

**Пусть у меня рука отсохнет** — Каб мне рукі адсохлі. Рукі даю на адцён (калі гэта няпраўда). Каб я сабе ногі паламаў (калі не папраўдзе кажу). Каб мне колам ногі сталі.

**Путаться под ногами** — Пад нагамі таўчыся. Пад рукі лезці. Смалою дакучаць.

**Пыльным мешком стукнутый** — Розум свінні з'елі. Лядашчык (лядашцік) пераляцеў (яму). Кішкі ў галаве. Прусакі ў галаве.

**Пьян как сапожник** — Хапіў з дзежкі, што не бачыць сцежкі. Сягоння не адзін, з свіннёю. П'яны як дурны. П'яны як рамізнік (як шавец, як каморнік). П'яны як гразь (як твань, як зямля). Напіўся чырвоніцы як ягада.

**Пятки не стоит** — Пяты не варты. Нагі не варты. Мезеніка (мезенага пальца) не варты. Гарэлага бліна не варты.

◆ *БЫЛО. ЁСЦЬ. БУДЗЕ.*

**Якуб КОЛАС**
**(1882 — 1956)**

Эх, панове,
"ніц не бэндзе":
Сапсуе пан справу
"вшэндзе",
Бо занадта пан "гаронцы"!
І не ў панскіх інтарэсах
Здзек такі чыніць
на "крэсах",
Нечуваны здзек
пад сонцам!
Дэфензівы і нагайкі,
Як было і ў Мікалайкі:
Цар — настаўнік
ваш панове!
Пастарункі ды касцёлы,
І ніводненькае школы
Беларусам у іх мове!..

◆ *ДУМКА ЧЫТАЧА*

## А можа, «Обваль»?

Нейкі мудры чалавек сказаў: "Чужое ведаць цікава, а сваё — абавязкова". З такой вось думкай перагортваю старонкі "Кароткага тапанімічнага слоўніка Беларусі" В.А.Жучкевіча, вышукваю назвы розных населеных пунктаў свайго раёна. З аднымі тлумачэннямі згаджаюся, іншыя бяру пад сумненне. Больш за ўсё мяне зацікавіла назва "Обаль". У слоўніку сказана, што назвы з такой асновай утвораны ад літоўскага слова "овеліс" — яблыня. Але ніяк не магу згадзіцца з такой трактоўкай, бо і назвы рэк (Обаль, Абалянка), і назвы паселішчаў (Обаль, Абольцы, Абаляны) утвораны, як я мяркую, зусім ад іншага, нашага слова. У нас, на Сенненшчыне, ёсць дзве Обалі і абедзве ля берагоў ракі Абалянкі. У Шумілінскім раёне ёсць і населены пункт Обаль, і рака Обаль. І там, і тут назва як бы прывязана не да яблыні, а да рэк. І, заўважце, рэк у тых месцах, дзе ў іх крутыя берагі. А такія берагі, асабліва ў час паводкі, час ад часу абвальваюцца. Утваралася "обваль". Паспрабуйце вымавіць гэта слова скорагаворкай, і вы заўважыце, што гук в як бы "прыглытваецца", выпадае. Обаль атрымліваецца.

Так з цягам часу сталі гаварыць і пісаць, забыўшыся на першапачатковае значэнне і вымаўленне гэтага слова.

Не хачу асабліва навязваць сваёй думкі іншым, але і трымаць яе пры сабе не варта. Вось і дзялюся з чытачамі.

**П.ЕРМАШКЕВІЧ.**

## ПАЧАТАК ЗРОБЛЕНЫ

Ужо трэці месяц, як уступілі ў дзеянне некалькі з важнейшых палажэнняў Закона аб мовах у Беларусі. Сумна казаць, што такі закон нам наогул спатрэбіўся. Але такая ўжо спадчына дасталася нам з вякоў паднявольнага існавання. І добра, што маем дакумент у абарону роднага слова. Таму-сяму ён не падабаецца, раздаюцца галасы аб яго адмяненні. Але будзем спадзявацца, што ў парламента і ўрада, у палітыкаў хопіць развагі, каб не зрабіць тут ход назад.

Закон ёсць і сёння трэба гаварыць, як ён выконваецца. Выканком Полацкага гарсавета спецыяльна разгледзеў гэтае пытанне на сваім пасяджэнні. Ставілася задача не толькі падвесці першыя вынікі, але і проста нагадаць усім, каго гэта датычыць у першую чаргу, што павінна быць зроблена, падказаць тым, хто яшчэ мала ці наогул нічога не робіць, што закон не абвяшчэнне чарговай кампаніі, а сур'ёзная дзяржаўная праграма, абавязковая для няўхільнага выканання.

Вынікі па рэалізацыі закона ў горадзе пакуль што даволі сціплыя. Але ўжо можна гаварыць і пра зрухі.

Асабліва паправілася справа ў сферы адукацыі. Сёння ўжо каля трэці гарадскіх вучняў навучаюцца на беларускай мове. Ёсць цэлы шэраг дзесяцігодак, дзе ўсе першыя класы беларускамоўныя. Калісьці першы дзіцячы сад з рабочай мовай у Полацку быў нечым незвычайным, сюды наведваліся з іншых месц і паглядзець, і павучыцца. А цяпер ужо добрая палавіна дзіцячых дашкольных устаноў такія. Педагагічнае вучылішча імя Скарыны гатова з будучага навучальнага года цалкам перавесці выкладанне і выхаванне на беларускую мову. Гарадскі аддзел адукацыі першы з устаноў горада дакументацыю выдае па-беларуску, знайшлі тут магчымасці забяспечыць дзеля гэтага неабходным шрыфтам пішучыя машынкі. На многіх установах паявіліся беларускія шыльды. Загучала беларускае слова ў аб'явах на чыгуначным і аўтобусным вакзалах. Паявіліся полацкія тавары з нацыянальнай маркіроўкай.

У некаторых установах для работнікаў праводзіліся курсы па вывучэнню беларускай мовы. Ужо асобныя прамовы, выступленні на масавых мерапрыемствах гучаць па-беларуску.

Але і гэта не выкінеш: на некаторых прадпрыемствах, ва ўстановах нават тую самую шыльду не дабяруцца памяняць. Некаторыя толькі адмахваюцца: кіньце, маўляў, пра мову гаварыць, дайце людзям такі-сякі жыццёвы мінімум. А той-сёй лічыць размовы наконт закона проста нечай прыхамаццю: маўляў, пройдзе шум і ўсё застанецца як і было.

Дзяржаўная мова не стала рабочай для кіраўнікоў працоўных калектываў. І ў гарвыканкоме, на жаль, яе не часта пачуеш. Што казаць: хіба толькі ў Вярхоўным Савеце з вуснаў яго Старшыні і асобных дэпутатаў пачуеш у Беларусі роднае слова. І тут, відаць, цяжка чакаць нейкіх хуткіх змен. Павінна быць беларускамоўнае асяроддзе, для яго стварэння спатрэбіцца не адзін год. Пачынальнікамі тут могуць і павінны стаць кіраўнікі, перш за ўсё тыя, хто на высокіх пасадах.

Закон аб мовах складзены так, што ледзь не ў кожнай сітуацыі дае агаворку: пры неабходнасці побач з дзяржаўнай можа ўжывацца і руская мова. Гэтае дапушчэнне для многіх служыць апраўданнем сваёй бяздзейнасці ў рэалізацыі артыкулаў, якія ўступілі ў сілу з 1 верасня. І прэтэнзій не прад'явіш: парушэння няма. Хаця заканамерна спытаць: ці заўсёды ёсць такая неабходнасць? Рускай мове ў нас нішто не пагражае, а сваю трэба адраджаць.

**Л.ЛЫСЁНАК,**
**загадчык аддзела арганізацыйнай і кадравай работы Полацкага гарвыканкома, намеснік старшыні гарадской рады ТБМ.**

◆ *КРЫМІНАЛЬНЫ СЮЖЭТ*

# «ЧП» на дарозе Сураўні — Роўнае

## Невялічкае пасляслоўе да аднаго злачынства

Смерць сама па сабе заўсёды жахлівая. Але ў сто разоў вастрэй, трагічней яна, калі чалавек гіне з-за чыёйсьці прафесіянальнай халатнасці ці нядбайства. Зваршчык саўгаса "Казьяны" А.Аганін таксама пайшоў з жыцця недарэчна. У той дзень на трактары Т-150 К ён разам з механізатарам Мікалаем Пераяславам паехаў у вёску Роўнае. Рабочы дзень скончыўся, трактар павінен быў стаяць у майстэрні (Пераяслаў яго рамантаваў. — Рэд.). Але дзе там чакаць саўгасны аўтобус ці ісці пехатой, калі можна сесці за руль і газаваць куды хочаш. Балазе ні галоўнага інжынера, ні загадчыка рамонтнай майстэрні, ні вартаўніка ў тэхнічным цэнтры не аказалася.

А васемнаццатай гадзіне Т-150К каціў па дарозе Сураўні — Роўнае насустрач канцавому прыпынку і... трагічнай развязцы. Пад'язджаючы да магазіна ў Казьянах, Аганін папрасіў Пераяслава спыніцца. Трактар загналі за магазін, каб не папасціся на вочы начальству. Зайшлі ў магазін. Аганін папрасіў у прадаўшчыцы прадаць яму бутэльку гарэлкі. "Толькі па спісах, — сказала яна. — Дый ужо выпіўшыя вы, ці не хопіць?" Тады мужчыны звярнуліся да жанчын з просьбай уступіць ім свой "паёк". Адна з "добразычліўцаў" аддала дзве бутэлькі, за якія Аганін разлічыўся.

Фыркнуўшы выхлапной трубой, Т-150К выкаціўся з-за магазіна на шашу і панёсся ў бок вёскі Роўнае. Не даязджаючы да яе дзесьці кіламетра паўтара, матор заглух, а перадача заставалася ўключанай. Пераяслаў з Аганіным знялі крышку каробкі перадач. Як падалося Пераяславу, рычаг быў пераведзены ў нейтральнае становішча, ён рухаўся свабодна. Аганін па ўласнай ініцыятыве пайшоў адкрываць бензакран на рухавіку з левага боку, а Пераяслаў пачаў заводзіць трактар. Рухавік зараката́ў, і трактар раптоўна скрануўся з месца. Метр, другі праехаў, пакуль быў выключаны матор. І тут Пераяслаў з жахам убачыў, што Аганін знайшоў смерць пад коламі...

Міжволі ўзнікае пытанне: няўжо трактарыст не быў знаёмы з інструкцыяй па тэхніцы бяспекі, не ведаў, што ўсе работы па запуску рухавіка павінен выконваць сам, нікога староннягa нельга дапускаць да гэтага? Быў знаёмы, усё ведаў. Каля 19 гадоў ён адпрацаваў у Шумілінскай райсельгасхіміі, з мая 1992 года тут, у саўгасе "Казьяны", шчыраваў. Загадчык майстэрні саўгаса В.Навумаў тлумачыў суду, што Пераяслаў працаваў на Т-150К, хоць не меў спецыяльнай падрыхтоўкі — добра разбіраўся і так.

Што ж тады паслужыла прычынай ЧП? Алкагольнае ап'яненне? Пераяслаў біў сябе ў грудзі, што не быў п'яны. Проста пры высвятленні абставін трагедыі з работнікамі міліцыі адчуў сябе дрэнна, маўляў, і каўтнуў валяр'янкі. Не будзем сцвярджаць канкрэтна, што хмяліла Пераяслава больш — валяр'янка ці спажыты днём раней спірт. Але факт застаецца фактам: трактарыст быў пад хмяльком. А гэта ўжо гаворыць аб многім.

Як, зрэшты, і парадак у тэхнічным цэнтры саўгаса: захацеў — выехаў куды душа пажадала. Ніхто не спыніў п'янага механізатара, "не ўбачыў" яўнае самавольства. А павінны былі і спыніць, і ўбачыць. У тым ліку і яны, службовыя асобы, якімі саўгас укамплектаваны. І з якіх, на мой погляд, варта было б спытаць за ЧП на дарозе Сураўні — Роўнае. А спыталі з аднаго — Мікалая Пераяслава, які быў прызнаны вінаватым у парушэнні правілаў бяспекі руху і эксплуатацыі транспартных сродкаў. Ен асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі і не будзе мець права кіраваць транспартнымі сродкамі на працягу пяці гадоў.

Прыгавор Шумілінскага нарсуда не выклікае ніякіх сумненняў. А вось рэагаванне на ЧП здзіўляе. Прасцей кажучы, рэакцыі няма, там-сям аб здарэнні наогул не чулі. У шэрагу гаспадарак стаянкі транспарту не ахоўваюцца. Машыны і трактары можна ўбачыць ноччу ля дамоў вадзіцеляў. Ці не з гэтай прычыны транспарт выкарыстоўваецца бескантрольна, нявечацца, гінуць ні за грош людзі? А мо па той, як мяне пераконваў адзін знаёмы юрыст, што службовых асоб практычна немагчыма прыцягнуць да крымінальнай адказнасці, бо іх функцыянальныя абавязкі размытыя, расплыўчатыя і недастаткова чотка рэгламентаваныя?

Як там ні было, а беспакаранасць яшчэ да дабра ніколі не даводзіла. Пацвердзіць сказанае прыкладам зможа, відаць, кожны чытач.

**М.НЕСЦЕРАЎ,**
Шумілінскі раён.

◆ *ШАХМАТЫ*

## Напярэдадні чэмпіянату

Больш за паўтара года (з лютага 1992 года па кастрычнік 1993 г.) працягваўся чарговы VIII чэмпіянат шахматыстаў Віцебскай вобласці па перапісцы. Старт прынялі 16 удзельнікаў з Полацка, Віцебска, Наваполацка, Оршы і многіх раёнаў вобласці. Нягледзячы на неаднаразовыя павелічэнні кошту паштовых паслуг, большасць з іх з гонарам завяршыла турнір-марафон. Цікава, што ў нас з'явіўся і новы чэмпіён.

"Традыцыю" вырашыў парушыць інжынер з Новалукомля Юрый Уладзіміравіч Спельнікаў, захапіўшы лідэрства ўжо са старту. Аднак на фінішы турніру ў барацьбе за прызавое месца актыўна ўключыліся вопытныя кандыдаты ў майстры спорту Сяргей Ляшчонак (Полацк), Уладзімір Барыхнеўскі (Віцебск), Георгій Глушак (Орша). І ўсё ж вопытныя першаразраднікі Юрый Капейкін з Оршы і Сяргей Вайцяхоўскі (Віцебскі раён) не "прапусцілі" кандыдатаў у майстры ў прызёры, толькі прысуджэнне незавершаных партый дазволіла У.Барыхнеўскаму стаць другім, уступіўшы паўачка Ю.Спельнікаву, які набраў у выніку 11,5 з 14 магчымых. Трэцяе месца ў Юрыя Капейкіна, які таксама на паўачка апярэдзіў С.Вайцяхоўскага.

Прызёры чэмпіянату, а таксама кандыдаты ў майстры спорту запрашаюцца на чарговы IX чэмпіянат нашай вобласці з нормай кандыдата ў майстры спорту.

**С.ШМУРАДКА,**
кандыдат у майстры спорту, суддзя вышэйшай лігі.

Вось так гэта робіцца...

Фота Г. ЖУКАВА.

# Ваш сад — агарод

## УЗЕЛКИ НА ПАМЯТЬ

• По мере хранения семян плодово-ягодных культур запасы питательных веществ в них истощаются. Чем дольше хранятся семена, тем меньше веществ остается для прорастания зародыша, а значит, и ниже всхожесть.

• Всхожесть теряется быстрее при хранении в тепле, даже в комнатных условиях. Для длительного хранения семена кладут в холодильник. Чем ниже температура, тем лучше они хранятся. Хранящиеся в помещении семена обычно имеют влажность 7-12 процентов, однако прорастание начинается при влажности не менее 40-50 процентов.

• Во время хранения семян также очень важно следить за влажностью. Лучше всего семена сохраняют жизнеспособность при той гигроскопической влажности, которую они приобретают в средне-увлажненной почве. При чрезмерном пересыхании эндосперма необратимо свертывается, разрушаются связи между клетками и семена быстро теряют всхожесть. При чрезмерном увлажнении, на холоде или без доступа кислорода семена загнивают.

• Семена некоторых пород созревают раньше плодов, поэтому плоды таких растений, как, например, боярышник и шиповник, нужно снимать в фазе начала их побурения. Вынув семена, которые к этому времени уже приобретают темную окраску, их очищают от остатков мякоти и, не давая им подсохнуть, смешивают с влажным песком и хранят в холодильнике, периодически помешивая. Высевают их поздней осенью. Семена остальных пород заготавливают по мере созревания плодов.

• Земляника страдает от сильных морозов, если нет снежного покрова. Подмерзание наступает при снижении температуры поздней осенью до минус 10 и в начале весны — до минус 7 градусов.

• Крыжовник хорошо переносит морозы, не превышающие 25-30 градусов. При пониженных температурах до минус 35 градусов он сильно подмерзает, и урожай ягод снижается. У крыжовника корневая система менее зимостойка, чем у других ягодных культур.

• Облепиха успешно переносит морозы до 50 градусов. Однако в отдельные зимы с оттепелями и сильными суточными колебаниями температур, а также при сильном ветре усыхают ветки и подмерзают цветковые почки, в первую очередь — у мужских растений.

• В ноябре — декабре малина может выдержать и 40-градусные морозы, но в январе — марте, когда бывают оттепели, растения повреждаются при 20 градусах. Учитывая это, нельзя преждевременно освобождать стебли от снега.

## Зберагчы ўраджай ад цыбульнай і маркоўнай мухі

Лічынкі цыбульнай і маркоўнай мухі прыносяць значныя страты пасадкам цыбулі, часнаку і морквы, асабліва пры бяззменнай культуры. Сярод мер барацьбы можна выдзеліць збор і знішчэнне раслінных рэштkaў і пустазелля, глыбокую асеннюю перакопку глебы, вапнаванне, сяўбу і пасадку ў раннія тэрміны, сістэматычнае рыхленне глебы і знішчэнне пустазелля. Глебу ў міжрадкоўях пасыпаюць попелам або сумессю попелу і тытунёвага пылу, або тытунёвага пылу і гашанай вапны (1:1). На 10 кв. м плошчы расходуюць каля 1 кг сумесі.

У перыяд інтэнсіўнага лёту цыбульнай і маркоўнай мухі (прыкладна перыяд цвіцення яблынь) усходы цыбулі паліваюць растворам солі (1 шклянка солі на 10 л вады), а морквы — растворам марганцоўкі (30—50 г на 10 л вады), або растворам хларафосу (20 г на 10 л вады). На 10—15 метраў радка расходуюць 10 л раствору.

## Як змагацца з вусенямі на памідорах

Супраць вусеняў на памідорах у цяпліцы можна прымяняць настой з парашку гарчыцы. 100 г парашку заліваюць 10 л гарачай вады, настойваюць двое сутак, працэджваюць, разводзяць у два разы вадой і апырскваюць расліны. Можна выкарыстоўваць і атручаную прынаду. Пустазелле здрабняюць на кавалачкі памерам 1—2 см, змочваюць растворам хларафосу (20—30 г на 1 л вады) і раскладваюць невялікімі кучкамі па цяпліцы. Праз 2—3 дні прынаду мяняюць, а старую збіраюць і знішчаюць разам з вусенямі.

## ЯК АТРЫМАЦЬ СВАЁ НАСЕННЕ

Для таго, каб атрымаць у будучым уласнае насенне караняплодаў, неабходна ў час збору ўраджаю адабраць найбольш здаровыя, тыповыя для гэтага сорту па форме, афарбоўцы і размеру караняплоды. Пры абрэзцы караняплодаў пакідаюць парасткі даўжынёй 1—1,5 см. Апрацаваныя насеннікі захоўваюць асобна па сартах. Тэмпература, пры якой праходзіць стадыя яравізацыі караняплодных агароднінных раслін, даследавана недастаткова. Большасць караняплодаў хутчэй заўсё праходзіць стадыю яравізацыі пры 2—8 градусах цяпла.

Пасля захоўвання з насеннікаў выдаляюць усе хворыя карэнні, абразаюць загнілыя часткі, караняплоды асвятляюць. Раней высаджваюць моркву, рэпу, бручку, пасля іх буракі, таму што яны больш адчувальныя да веснавых замаразкаў. Адлегласць пры пасадцы: для морквы — 50х30 см, для буракоў — 70х70 см. Галоўка караняплода пры пасадцы павінна знаходзіцца на ўзроўні зямлі, а верхавінная частка прысыпана рыхлай зямлёй (лепш перагноем на 2—2,5 см).

Перад цвіценнем караняплоды падкормліваюць. Неабходна падвязваць сцяблы да калоў і выдаліць лішнія парасткі. У морквы парасончыкі з першага да шостага парадку зацвітаюць у ліпені — пачатку жніўня і паспяваюць выспець. Парасончыкі больш высокіх парадкаў не выспяваюць, іх трэба выдаліць. У буракоў для паскарэння выспявання і паляпшэння якасці насення рэкамендуецца адшчыпваць у пачатку жніўня верхнюю частку кветканосаў.

Каб атрымаць добрае насенне цыбулі, у час уборкі ўраджаю выбіраюць здаровыя цыбуліны з добра выспелым пакрыўным шалупіннем. Дыяметр цыбуліны павінен быць не менш 6—10 мм. У вельмі дробных цыбулін не хапае запасных рэчываў для ўтварэння зачаткавых кветканосных стрэлак. Яравізацыя цыбулі адбываецца хутчэй за ўсё пры тэмпературы 2—10 градусаў цяпла.

**Вырошчванне насення капусты.** Восенню адбіраюць на ўчастку лепшыя, тыповыя для данага сорту качаны капусты і выкопваюць іх з карэннем. Найбольшы ўраджай насення атрымліваецца пры захоўванні насеннікаў цэлымі качанамі. Насеннікі, вырашчаныя з абсечаных храпак, даюць меншы ўраджай насення. Качаны падвешваюць у падвале або ўкладваюць у бурты на паліцы. Найбольш распаўсюджаны спосаб захоўвання храпкаў з верхавіннай пупышкай. Тэмпература захоўвання ад 0 да +1°С.

Перад высадкай насеннікаў неабходна зрэзаць загнілыя часткі храпак і прысыпаць месцы зрэзаў тоўчаным вугалем. Пасля высадкі храпкаў іх неабходна прыкрыць саломістым гноем (лепш конскім), яловымі галінкамі або адразу ж абсыпаць зямлёй да верхавіннай пупышкі. Догляд заключаецца ў падвязцы насеннікаў да калоў, праполцы, рыхленні і падкормцы. З ніжніх пупышак храпкаў вельмі часта развіваюцца вялікія парасткі. Іх трэба выдаляць, таму што развіццё ідзе на шкоду ўтварэнню насення.

Менш намаганняў патрабуецца пры атрыманні насення з аднагадовых культур. Памідоры на насенне адбіраюць з найбольш ураджайных, здаровых і тыповых для данага сорту раслін. Лепшае насенне з пладоў, адабраных з 1—3-й гронак. Памідоры павінны быць спелымі.

Атрыманне насення агуркоў мае свае асаблівасці. Яны адносяцца да перакрыжаванаапыляемых раслін, таму пажадана вырошчваць адзін сорт. Калі іх некалькі, неабходна правесці ізаляцыю сартоў. Насеннікі ўбіраюць, калі большасць пладоў набывае ўласцівую сорту афарбоўку, асобныя плады становяцца мяккімі, а плеці пачынаюць часткова засыхаць. Трэба памятаць, што гібрыды не захоўваюць сваіх уласцівасцей пры насенным размнажэнні.

# Не вер вачам сваім

У нумары 46 газеты "Аргументы и факты" на першай старонцы чацвертага выпуску ўкладыша "Аргументы и факты в Беларуси", выдаўцом якой з'яўляецца Інстытут грамадскіх сувязей, апублікавана заметка "Дзяльба дойчмарак — справа ўсенародная". У ёй чытачам паведамляецца, што з аднаго мільярда марак, выдзеленых урадам Германіі для кампенсацыі грамадзянам былога СССР тым, хто пацярпеў ад нацысцкіх праследаванняў, толькі 10 мільёнаў прызначаны жыхарам Беларусі.

Невядомы аўтар публікацыі задае пытанне, хто вызначыў долю Беларусі ў колькасці менавіта 10 мільёнаў дойчмарак? Але калі ўжо ты ўзяўся за пяро, то і высветлі сам пытанне, якое цябе цікавіць. Тым больш, што і арганізацыя, якой трэба будзе рэалізоўваць рашэнне ўлад ФРГ, ім названа правільна — беларускі рэспубліканскі фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне".

Ад усхваляваных публікацыяй чытачоў было шмат званкоў у сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку і Белінфарм. Людзі абураюцца, беручы пад увагу той факт, што Беларусь больш за іншых пацярпела ў гады Вялікай Айчыннай вайны, бо загінуў кожны чацверты яе жыхар. За тлумачэннем сітуацыі карэспандэнт Валянціна Меншыкава звярнулася да старшыні праўлення вышэйназванага фонду Валянціна Герасімава.

— Нас таксама здзівіла гэта газетная заметка, — заявіў ён. Існуе рашэнне ўрадаў трох краін — Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны, падпісанае ў верасні гэтага года іх кіраўнікамі, па якому мільярд дойчмарак быў размеркаваны так: Беларусь атрымлівае 200 мільёнаў нямецкіх марак, Расія і Украіна адпаведна па 400 мільёнаў. Ураду Германіі паведамлены гэтыя размеры выплат і ён будзе пераводзіць сродкі на рахункі нацыянальных фондаў "Узаемаразуменне і прымірэнне". У Беларусі выплату кампенсацый грамадзянам, пацярпеўшым ад нацысцкіх праследаванняў, будзе праводзіць наш фонд.

**Белінфарм.**

◆ *НЕРАЎНАДУШНЫЯ НАТАТКІ*

# Цень Распуціна на экране і ў жыцці

Дзіўна, але пачынаеш зайздросціць самому сабе. Успамінаецца не такі ўжо і далёкі час, калі даперабудовачны журналіст мог спакойна расказваць пра чыйсьці "застойны" вопыт работы, або, наадварот, з чыстым сумленнем развенчваць безгаспадарчасць і яе аўтараў. Цяпер жа, колькі ні азірайся навокал, наўрад ці ўдасца знайсці "прыклад, варты перайманыя". Ну, на самай справе, не хваліць жа тых невядомых, што стаяць за "МММ", "Дайновай", ці недарэку Распуціна з яго гарэлкай.

Цяжкасці і з крытыкай. Жыццё ператварылася ў суцэльны кавардак, а крайняга адшукаць не проста. Паслухайце дэбаты, калі іх можна так назваць, у парламенце. Адны ўзаемныя абвінавачанні. Размоў шмат, а жыццё з кожным днём пагаршаецца.

Ці адчуваюць гэта кіраўнікі нашага, абласнога ўзроўню? Сумнявацца ў тым не прыходзіцца. Напэўна, таму і пасяджэнне аблвыканкома пачалося не з разгляду запланаваных пытанняў, а з інфармацыі аб надзвычайным становішчы ў энергетыцы. Кіраўнік "Віцебскэнерга" М.Самадзееў такога доўгу і ў кашмарным сне не бачыў: аб'яднанне задаўжала пастаўшчыку (газавікам) 33 мільярды паўнаважкіх расійскіх рублёў.

Вось тут бы і ўчапіцца газетчыку за кіраўніка і адхвастаць яго як след: бо сапраўды нам сябры з блізкага замежжа могуць перакрыць засаўкі і ўсё імгненна замрэ. Але ці вінаваты Самадзееў? Яму сёння мясцовыя кліенты павінны выплаціць у агульнай складанасці аж 46 мільярдаў.

Кола звужаецца. Можа, і знойдзецца вінаваты. Дык хто ж яны, тыя неплацежнікі? О, салідныя прадпрыемствы. Першым у гэтай шарэнзе наваполацкі "Палімір". 20 мільярдаў запазычанасці! Гігант ва ўсіх адносінах. Спажывае электраэнергіі амаль столькі, колькі ўвесь Віцебск. А як жа з разлікамі? Няма ў прадпрыемства такой колькасці расійскіх рублёў. Тая ж гісторыя з "Нафтааргсінтэзам" (11 мільярдаў), аграрным сектарам (4 мільярды) і г.д.

Становішча сапраўды нікуды не вартае. Выйсце на мясцовым узроўні наўрад ці знойдзецца. Можна прапанаваць у якасці разліку тавары нашых прадпрыемстваў. Але яны патрэбны, каб выкупляць вугаль, цукар, алей. Ды і з таварамі ўжо нявыкрутка. З кожным кварталам падаюць аб'ёмы вытворчасці. Прадпрыемствам, каб набыць "замежную" сыравіну, таксама даводзіцца выкарыстоўваць бартэр.

Яшчэ надзвычай пякучая праблема. Мы апынуліся ў нявыгадным становішчы: неадэкватны курс рубля і "зайца" літаральна разбурае эканоміку. Праўда, ёсць і такія, хто мае ад гэтага прамую выгаду. Працвітаюць на народным збядненні шматлікія біржы, крэдытна-банкаўская сістэма, пасрэдніцкія канторы ў абліччы МП і СП, мянялы і спекулянты. Хто ўстанаўлівае такі грашовы курс? Кажуць, рынак. Тады задумаемся: каму патрэбен такі рынак, які рабуе дзяржаву і народ?

А.ВІХРОЎ.



Пад кронамі соснаў.

Мал. А. ДАРАГАКУПЦА.

◆ *З ЛІЧБАМІ НЕ ЖАРТУЮЦЬ*

# Пакінем зарплату нашчадкам?

Апублікаваны даныя Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу аб сярэднямесячнай зарплаце рабочых і служачых у студзені—кастрычніку 1993 года, якая склала 41.329 рублёў і павялічылася ў параўнанні з гэтым жа перыядам мінулага года ў 11 разоў.

Гэтыя сухія, на першы погляд, лічбы мы маглі б пакінуць сваім патомкам у якасці своеасаблівага летапісу нашага жыцця. Таму што з іх дапамогай яны змогуць знайсці вельмі цікавую для сябе інфармацыю і ўявіць, якімі прыярытэтамі кіраваліся на сваім зямным шляху іх папярэднікі.

Такім чынам, калі меркаваць па размеру заработнай платы, што выдзяляецца цяпер беларускай дзяржавай работнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, то ў найбольшай пашане ў яе, прычым са значным адрывам ад усіх астатніх катэгорый працуючых, — банкаўскія служачыя. У студзені—кастрычніку 1993 года іх сярэднямесячная зарплата складала 71.789 рублёў (у кастрычніку — 148.965 рублёў). Другому месцу на гэтым "п'едэстале" могуць радавацца будаўнікі — у іх галіне атрымлівалі ў студзені — кастрычніку ў сярэднім 54.693 рублі (135.978 — у кастрычніку), а трэцяму — работнікі апарату органаў кіравання (46.961 і 103.027 рублёў адпаведна). Мала адстаюць ад іх тыя, хто займаецца матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем і збытам (за кожны з першых дзесяці месяцаў гэтага года яны атрымалі ў сярэднім 45.894 рублі, у кастрычніку — 111.788); хто працуе на транспарце (45.097 і 111.056 адпаведна), у прамысловасці (44.108 і 107.766), а таксама сувязісты (43.511 і 97.195).

Групу, якая ідзе за лідэрамі па размерах заработнай платы, можна заспакоіць толькі тым, што пасля яе яшчэ застаецца кампанія аўтсайдэраў. А ў "залатую сярэдзіну" трапілі: работнікі страхавання (39.140 рублёў — іх сярэднямесячная зарплата ў студзені — кастрычніку, 97.404 — у дзесятым месяцы), навукі і навуковага абслугоўвання (38.131 і 95.866), лясной гаспадаркі (37.004 і 79.862), жыллёва-камунальнай гаспадаркі (36.624 і 88.628), аховы здароўя (35.629 і 82.377), народнай адукацыі (34.292 і 77.480), гандлю і грамадскага харчавання (31.947 і 87.512), а таксама фізкультуры і спорту (31.254 і 72.302).

У "чорным спісе" ўладальнікаў самых мізэрных заработных плат у Беларусі па-ранейшаму лічацца: работнікі культуры (у сярэднім 29.905 рублёў атрымалі яны ад дзяржавы на кожны месяц у студзені—кастрычніку бягучага года, а ў кастрычніку — 70.727 рублёў), мастацтва (28.904 і 72.716) і сельскай гаспадаркі, уключаючы калгасы (27.443 і 71.984). Самай жа нізкааплатнай катэгорыі працуючых у народнай гаспадарцы нашай рэспублікі застаюцца тыя, хто адказвае за сацыяльнае забеспячэнне — такая вось горкая іронія лёсу: іх сярэднямесячная заработная плата ў студзені — кастрычніку бягучага года склала 23.582 рублі, у кастрычніку — 54.670. Выходзіць, калі меркаваць па ўзроўню аплаты працы, што іх паслугі цэняцца ў нашай краіне ў тры разы танней, чым работа самых высокааплатных банкаўскіх служачых.

Нашым нашчадкам будзе над чым задумацца, знаёмячыся з гэтымі лічбамі. Толькі чаму б нам не выканаць гэту місію самім?

Вераніка БЯГУН,
Белінфарм.

# З НАВАПОЛАЦКА ЧУВАЦЬ ДАЛЁКА

Дваццаць гадоў споўнілася аматарскай калектыўнай радыёстанцыі Полацкага дзяржаўнага універсітэта.

Яна стваралася як філіял радыёстанцыі Віцебскага абласнога радыёклуба. Аматарам захапляльнага тэхнічнага віду спорту была аказана дзейсная арганізацыйная і матэрыяльная дапамога, што дазволіла наладзіць рэгулярныя заняткі. А праз нейкі час, дакладна запомнілася гэта дата — 14 снежня 1973 года, — студэнт-радыёаматар атрымаў на пасланы ў эфір пазыўны УК2ВАР водгук ад караткахвалевіка з Партугаліі.

Першы ж год аказаўся ўдалым для нас: за актыўны і плённы ўдзел ва ўсесаюзным спаборніцтве, нас, кароткахвалевікоў узнагародзілі дыпломам "Волгаград".

У 1975 годзе нашы радысты апрабавалі сваю тэхніку і навыкі ў паходных умовах. Разам з турыстамі свайго інстытута яны прайшлі на лыжах па маршруце Расоны — Клясціцы — Лісна — Асвея, даючы звесткі пра сябе і пра мясціны, па якіх праходзілі, у шырокі эфір. Тым жа годам мы нядрэнна заявілі аб сабе ў папулярных у радыёаматараў спаборніцтвах "паляванне на ліс". У 1980 годзе з падобнага конкурсу наша радыстка В.Свірыдзенка прывезла дыплом за першае месца.

Зімой 1982 года ў рамках патрыятычнай аперацыі "Памяць" пасылалі далёка за межы Беларусі, знаходзячыся на комплексе "Прарыў" на Ушаччыне, расказы пра гэтае памятнае для нашага народа месца. У 1984 годзе, калі шырока адзначалася 40-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, мы былі на сувязі з кароткахвалевікамі, прымалі інфармацыю з іншых месц аб святочных мерапрыемствах і перадавалі пра сваё. Мы ішлі па слядах дзеяння славутай партызанскай брыгады "Няўлоўныя". І наш голас быў пачуты на Украіне. "Чырвоныя следапыты" з горада Нікалаева прыслалі ліст на адрас нашай радыёстанцыі, каб мы дапамаглі адшукаць месца, дзе нарадзіўся А.І.Макеенак, адзін з 68 Герояў Савецкага Саюза сярод удзельнікаў гераічнага нікалаеўскага дэсанта, пра якога ўкраінскія сябры ведалі толькі, што ён родам аднекуль з-пад Полацка ці Расон. Мы прынялі заяўку. У час паходу ўстанавілі, што радзіма героя — вёска Гарадзілавічы, што непадалёк ад Невеля. У сакавіку мы з той вёскі перадалі наша паведамленне федэрацыі кароткахвалевікоў Нікалаева.

А ў канцы таго ж юбілейнага года мы атрымліваем радасную вестку: нам даецца ганаровае права з 1 студзеня па 9 мая 1985 года па праграме радыёэкспедыцыі "Перамога" весці перадачы з месца дзеяння партызанскіх злучэнняў, якія ў час мінулай вайны змагаліся з ворагам на Віцебшчыне. І ўдзень, і ўначы мы неслі вахту каля радыёстанцыі. Дарагая для нас узнагарода — дыплом "Перамога".

Шмат студэнтаў прайшло за дваццаць гадоў цераз наш невялікі калектыў, які пастаянна абнаўляўся і абнаўляецца. Для многіх захапленне радыё засталося на ўсё жыццё.

І па сённяшні дзень дружны калектыў кароткахвалевікоў праводзіць заняткі, пасылае ў эфір свае пазыўныя, уступае ў кантакт з такімі ж аматарамі па ўсім свеце. Наш цяперашні юбілей адзначан прыемнай узнагародай: за ўдзел у міжнародным спаборніцтве нам прысуджаны дыплом за першае месца ад асацыяцыі радыёаматараў з ЗША.

Л.ПАЛЯКОЎ,
загадчык лабараторыі Полацкага дзяржаўнага універсітэта, кіраўнік калек-

◆ *ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ*

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

• Алей захоўвайце абавязкова ў цёмным месцы і максімум паўгода.

• Жывёльны тлушч (напрыклад, сметанковае масла) трымайце ў маразільніку. Проста ў халадзільніку ён можа захоўвацца не больш чатырох тыдняў.

• Крупы хутка псуюцца, калі трымаць іх не ў цемнаце. Ссыпце іх у палатняныя мяшэчкі або ў шкляныя слоікі. Галоўнае — не захоўвайце крупы ў поліэтыленавых пакетах.

• Вельмі часта ў муку на мелькамбінатах трапляюць лічынкі жучкоў. Каб пазбавіцца іх, пастаўце муку ў духавую шафу на роўнае цяпло, толькі не сапсуйце прадукт. Пакладзіце ў крупы ці муку часнок або лупіны ад лімона.

• Не кіпяціце каву: знікне і смак, і духмянасць. Калі ж не дагледзелі і кава закіпела, хуценька зніміце з агню і ўліце ў яе некалькі кропель халоднай вады.

• Посуд, у якім падгарэла малако, лёгка адмыецца, калі ў яго наліць халоднай вады, дабавіць адну-дзве сталовыя лыжкі пітной соды і кіпяціць дзве-тры мінуты.

• Калі ў духоўцы цеста пры выпечцы прыгарае зверху, яго трэба накрыць прамасленай паперай, калі знізу — паставіць пад бляху з цестам бляху, на якую насыпана соль.

• Учарашнюю кашу выкідваць не варта. Дадаўшы да кашы з любых круп яйка, пітную соду, муку, можна выпечы смачныя аладкі.

• Лімоны працяглы час захоўваюцца свежымі, калі іх скласці ў слоік, заліць халоднай вадой і мяняць яе штодзень. Калі слоік паставіць у халадзільнік, ваду можна мяняць раз у тыдзень.

• 1 сталовая лыжка сухіх ягад шыпшыны, запараная 1 шклянкай кіпеню, забяспечвае сутачную патрэбу чалавека ў вітаміне С. Запарваць шыпшыну неабходна ў непразрыстым посудзе (лепш за ўсё ў тэрмасе), бо на святле вітамін С хутка разбураецца.

## КУЛІНАРНАЯ КНІГА

*Пячэнне "Ружа".* Дрожджы развесці ў малацэ, маргарын (з халадзільніка) змяльчыць на тарцы. Прадукты змяшаць, дадаць яйка, усыпаць муку, замясіць некрутое цеста, раздзяліць яго на тры часткі. Сметанковае масла расцерці з цукрам. Кожную частку цеста раскатаць у пласт, змазаць яго сумессю масла з цукрам, скруціць у трубку. Парэзаць яе на кавалкі таўшчынёй 3 — 3,5 см, адзін бок зашчапіць. Гэтым бокам выкласці на бляху і выпечы ў духоўцы.

3 шклянкі мукі, 0,5 палачкі дражджэй, 0,5 шклянкі малака, 250 г сметанковага маргарыну, 1 яйка. Для прамазкі: 100 г сметанковага масла, 1 шклянка цукру.

◆ *ЛІТКУР'ЕР*

## НЕ ПАРЫВАЕЦЦА СУВЯЗЬ

Не парываецца сувязь мясцовых літаратараў з людзьмі.

Так, днямі ў рамках тыдня беларускай літаратуры ў сярэдняй школе №9 Віцебска адбылася сустрэча з пісьменнікам Барысам Беляжэнкам.

На пачатку сустрэчы вучні школы паказалі сцэнкі беларускага побыту. А потым госць прачытаў свае вершы, расказаў, як ідзе літаратурная работа пра нашага слыннага земляка, гуманіста, асветніка Васіля Цяпінскага, адказаў на пытанні.

На сустрэчы прысутнічалі выкладчыкі роднай мовы і літаратуры суседніх школ.

(Наш кар.).

◆ *ВЫДАДЗЕНА Ў БЕЛАРУСІ*

# УСЁ ПРА ФУТБОЛ

Ужо амаль 40 гадоў у Беларусі выпускаюцца футбольныя календары-даведнікі. Па некалькі разоў гэта рабілася ў Гомелі і Віцебску, адзін раз — у Магілёве і Брэсце. Затое ў Мінску выдавецтва "Полымя" за мінулы час падрыхтавала іх больш за 40. Для аматараў футбола ў гэтых выданнях сабрана шмат цікавага і неабходнага матэрыялу — ад раскладу гульняў да саставу каманд, розная статыстыка, гістарычныя нарысы, адрасы калекцыянераў і г.д.

Шчыра кажучы, мінскія календары-даведнікі заўсёды былі невысокага ўзроўню. Прымітыўна складзеныя, уvабраўшы ў сябе перадрук са спартыўных газет, яны не вызначаліся арыгінальнасцю. Аўтары не абцяжарвалі сябе пошукам новага, што патрабавала шмат намаганняў, працы, часу. Тым не менш нават такой якасці мінскія календары-даведнікі разыходзіліся па СССР тыражом у некалькі дзесяткаў тысяч экземпляраў.

Цяжкасці апошніх гадоў прывялі да таго, што ўпершыню за многія гады выдавецтва "Полымя" ні ў мінулым, ні ў сёлетнім годзе не рашылася выпусціць падобнае выданне. Затое гэта з поспехам зрабіў інфармацыйна-рэкламны цэнтр "Фут-бол". Аўтарскі калектыў склалі журналісты штотыднёвіка "Футбол Беларусі".

Падрыхтаваны па прыкладу лепшых айчынных футбольных календароў-даведнікаў, першынец "Фут-бола" прыцягвае ўвагу паклоннікаў гэтай папулярнай гульні не толькі ў Беларусі. Вялікі па аб'ёму (256 старонак), ён падрабязна расказвае аб I і II нацыянальных чэмпіянатах рэспублікі. Аўтары-складальнікі сабралі вычарпальныя матэрыялы аб кожнай камандзе-ўдзельніцы.

Зручныя і кампактныя табліцы дазваляюць аматарам футбола з поспехам займацца статыстыкай, распрацоўваць уласныя яе раздзелы. У выданні прыводзяцца спісы арбітраў, табліцы пенальці, парушэнняў правіл, наведваемасці, саставы каманд усіх трох груп, забітых мячоў кожным футбалістам, спісы 22 лепшых ігракоў па выніках чэмпіянатаў, спісы ўладальнікаў і фіналістаў кубка Беларусі. Вялікае месца ў выданні ўдзелена і зарубежнаму футболу, чэмпіянату Еўропы ў Швецыі (1922 г.), алімпійскаму турніру ў Барселоне, маючаму адбыцца першынству свету ў 1994 годзе.

З упэўненасцю можна сказаць: футбольны каляндар-даведнік такога ўзроўню, як сёлетні, у Беларусі яшчэ не выдаваўся. І хоць каштуе ён нямала, набыць яго варта нават тым, хто не займаецца збіральніцтвам. У кніжных магазінах і кіёсках "Саюздруку" календары-даведнікі прадавацца не будуць. А тым, хто хоча яго набыць, раім пазваніць па тэлефоне 36-92-84

А.ПАДЛІПСКІ.

◆ *У ПРАКУРАТУРЫ ВОБЛАСЦІ*

# Ордэр — на непабудаваную кватэру

Такога не можа быць, падумае чытач. Ці не з фантастыкі гэта? Не, усё, як кажуць, чысцейшай вады праўда. Менавіта такую заганную практыку выдачы ордэраў на недабудаваныя кватэры прыдумалі ў Віцебскім гарвыканкоме, а дакладней, у жыллёвым упраўленні, якое ўзначальвае В.Сазон. Гэтыя парушэнні закона выявіла пракуратура вобласці, правяраючы, як выконваецца жыллёвае заканадаўства.

Згодна з артыкулам 57 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь і пункта 57 "Правілаў уліку грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і прадастаўлення жылых памяшканняў у Рэспубліцы Беларусь", ордэры грамадзянам павінны выдавацца на памяшканні, прыгодныя для жылля. Выканкомам жа гэтае патрабаванне не захоўвацца, г.зн. ордэры выдаюцца задоўга да завяршэння будаўніцтва жылых дамоў.

Так, напрыклад, ордэры на кватэры ў доме № 14, корпус 1 па вуліцы Церашковай былі выдадзены яшчэ ў лістападзе 1991 года, хаця будаўніцтва дома не завершана і па сённяшні дзень (!). У канцы 1992 года ордэры на кватэры ў доме па вуліцы К.Маркса грамадзяне таксама атрымалі практычна з пачаткам будаўніцтва дома, і па цяперашні час яны засяліцца не могуць.

Закон прадугледжвае выдачу ордэра толькі на свабоднае жылое памяшканне. Але і гэта палажэнне закона гарвыканкомам сістэматычна не выконваецца. Так, напрыклад, грамадзянін Спірыдовіч П.П. 27.08.92 атрымаў ордэр на кватэру № 58 у доме № 37, корпус 2 па вуліцы "Праўды", хаця гэта кватэра не была свабоднай (у ёй жыла сям'я грамадзяніна Прынца М.П. з 4 чалавек). У далейшым Прынц гэту кватэру прыватызаваў. Выдача ж Спірыдовічу П.П. ордэра на занятае жылое памяшканне выклікала шматлікія справядлівыя скаргі апошняга ў розныя інстанцыі.

У адпаведнасці з пунктам 58 "Правілаў уліку грамадзян, якія маюць патрэбу ў жыллі", ордэр на жылое памяшканне павінен выдавацца непасрэдна грамадзяніну, якому яно выдзелена, або іншай асобе па даверанасці, якая афармлена ва ўстаноўленым парадку. Выканкомам жа шырока практыкуецца выдача ордэраў не непасрэдна грамадзянам, а старшыням прафкомаў, кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый, якія потым выдачу ордэраў пад рознымі падставамі затрымалі на неабмежаваны час, што вымушала людзей абіваць парогі, псаваць нервы і губляць дарагі час.

Па выяўленых парушэннях законнасці пракуратура ўнесла прадстаўленне ў Віцебскі гарвыканком і патрабавала іх ліквідаваць, не дапускаць парушэнняў жыллёвага заканадаўства і правоў грамадзян.



Каму парсючка?

Фота Г. ЖУКАВА.

◆ *ГУЛЯЕМ З ГРОСМАЙСТРАМ*

## У БЕЛЫХ РАКІРОУКА

*Міжнародны гросмайстар А.Кавалёў — чытачы "Віцебскага рабочага"*

*ІСПАНСКАЯ ПАРТЫЯ*

1. e4 e5. 2. Kf3 Kc6 3. Cb5 f5 4. C:c6 dc 5. Kc3 Cd6 6. d4 Fe7 7. 0-0...

Яшчэ два хады зроблены ў партыі чытачоў з міжнародным гросмайстрам Андрэем Кавалёвым. У адказ на 6... Fe7 белыя ракіраваліся. Пазіцыя чорных, як бачыце, ускладняецца, хоць гэта не значыць, што яна ўжо прайграная.



ХОД ЧОРНЫХ

Ход чорных. Як згуляем, сябры? Перадавайце свой ход як заўсёды па тэлефоне 37-31-34.

М.ПРЫГОЖЫ.

# АЛКАГОЛІКІ, ЯКІЯ НЕ П'ЮЦЬ

**Сёння ў свеце даволі многа людзей, хворых на алкагалізм. І што адметна: колькасць іх павялічваецца. Усё больш сведкамі гэтага становімся і мы з вамі. Праблема алкагалізму паўстае сёння даволі востра як для дзяржавы, так і для самога хворага і яго блізкіх.**

**Але ці можна быць хворым на алкагалізм і не піць? Аказваецца, можна, як сцвярджае наш новы аўтар А.В.Якаўлеў.**

**Анатоль Васільевіч на працягу двух месяцаў быў у Польшчы па запрашэнню. Пэўны час працаваў у прыватнай радыёстанцыі амерыканца Роберта Гэмбла, які падтрымлівае рух АА ў ЗША і Польшчы. Ен прасіў зрабіць усё магчымае, каб развіць гэты рух і на Беларусі, абяцаючы сваю падтрымку. І так слова А.В.ЯКАЎЛЕВУ.**

Сведчаннем алкаголікаў, якія не п'юць, служаць тыя, хто аб'ядноўваецца ў групы АА (ананімных алкаголікаў). Сёння яны існуюць больш чым у 110 краінах свету, а ўзніклі ў 1935 годзе ў ЗША. Гэты рух аб'ядноўвае зараз больш за мільён людзей, хворых на алкагалізм, якія прызнаюць сваю залежнасць ад алкагалізму і жадаюць вызваліцца ад яе ўплыву. У былым СССР рух АА не мог мець месца. Па-першае, таму, што патрабуецца поўная ананімнасць удзельнікаў, якія маюць права не называць сваіх сапраўдных прозвішчаў або імён, месца жыхарства, працы, па-другое, ананімныя алкаголікі лічаць, што толькі Бог можа вярнуць ім здароўе, і ў сваіх малітвах перад пасяджэннем звяртаюцца да Бога. Зразумелая рэч, што ў атэістычнай дзяржаве такі рух не мог існаваць, замест яго былі клубы цвярозасці, якія не мелі нічога агульнага з рухам АА.

Дзякуючы руху АА ад пачатку яго існавання мільёны людзей змаглі пачаць новае жыццё, пазбавіцца ад пачуцця непаўнацэннасці, выйсці з цяжкага жыццёвага тупіка.

Узнікшы ў 1935 годзе рух даволі хутка пашыраўся. Заснавалі яго два алкаголікі з ЗША Вілі і Боб. Спаткаўшыся і пагаварыўшы, яны прыйшлі да высновы, што разам знойдуць у сябе сілы выбавіцца алкагольнай залежнасці самі і змогуць іншым алкаголікам дапамагчы стаць цвярозымі. Разам Вілі і Боб пачалі шукаць алкаголікаў і аб'ядноўваць іх у групы АА.

Якім чынам гэтым людзям удалося не піць? Адказ на гэтае пытанне крыецца ў асаблівым характары гэтай хваробы, якая з'яўляецца вынікам узнікаючых у арганізме працэсаў, на якія хворы не мае ўплыву. Працэсы гэтыя анамальныя, паколькі ўзнікаюць не ва ўсіх, хто п'е, тым больш, што не ўсе, хто часта п'е, становяцца алкаголікамі.

Каб стаць алкаголікам зусім не абавязкова піць дэнатурат. Даследаванні паказваюць, што трэцяя частка ўсіх алкаголікаў акрамя піва ніколі нічога не піла. І тым больш не абавязкова піць 20-30 гадоў, на алкагалізм можна захварэць і да 20-гадовага ўзросту. Алкаголік праз пэўны час можа нічога не піць. Гэтая перыядычнасць уводзіць у зман і хворага, і медыкаў. Аднак перапынкі ў запоях не з'яўляюцца сведчаннем таго, што алкаголік вылечыўся канчаткова. Гурты ж АА даюць магчымасць хворым заставацца цвярозымі многа год, а большасці — і да канца жыцця. Адзіным варункам удзелу ў гурце АА з'яўляецца жаданне перастаць піць. Члены АА лічаць сваёй галоўнай мэтай быць цвярозымі і дапамагчы іншым дасягнуць гэтага. Яны прызналіся самі сабе, што бяссільныя перад алкаголем і павінны пазбягаць яго ўжывання.

Зараз у свеце існуе 42 тысячы такіх гуртоў цвярозых алкаголікаў. Есць яны і ў былым СССР (Мінску, Маскве, Вільні, Смаленску і інш.). У суседняй Польшчы зараз іх налічваецца больш за 200.

Гурты АА не звязаны ні з якой рэлігіяй, партыяй, не займаюцца палітыкай. У Нью-Йорку штотыднёва адбываюцца звыш тысячы пасяджэнняў АА, якія ва ўсім свеце называюцца аднолькава — мітынгі, але з нашым паняццем мітынгу не маюць нічога супольнага. Мітынгі АА звычайна працягваюцца крыху больш за гадзіну. Вывучаецца і абмяркоўваецца "Вялікая кніга" і яе прымяненне для вырашэння праблем, узнікаючых у сувязі з захворваннем. Кніга служыць компасам для алкаголіка на яго дарозе да цвярозасці. "Вялікая кніга" — не адзіная крыніца мудрасці і надзеі для алкаголікаў. Маецца шмат літаратуры па справах руху і па алкагалізму, але "Вялікая кніга" з'яўляецца галоўным дапаможнікам. Першы экземпляр яе быў надрукаваны на машынцы ў 1939 годзе, а сёння ўжо з'явіўся ў свет яе пяцімільённы экземпляр. Гэтая кніга ёсць і на рускай мове.

Ананімныя алкаголікі праводзяць і свае міжнародныя мітынгі-з'езды. Адзін з іх адбыўся ў 1985 годзе ў Манрэалі, куды на алімпійскі стадыён, каб адзначыць 50-годдзе руху АА, сабраліся звыш 50 тысяч цвярозых алкаголікаў з усяго свету. На працягу трох дзён у сучасным Палацы кангрэсаў праходзілі мітынгі АА на розных мовах, абмяркоўваліся праблемы службаў АА, выступалі і дзяліліся вопытам алкаголікі, урачы, юрысты і іншыя спецыялісты, якія маюць дачыненне да руху АА.

Усім, хто адчувае алкагольную залежнасць і хацеў бы браць удзел у дзейнасці гурта АА у Віцебску, раім звярнуцца да ўрача абласнога псіханеўралагічнага дыспансера Бакевіч Людмілы Васільеўны па тэлефоне 4-65-81.

А.ЯКАЎЛЕЎ.

## КРАСВОРД

**Склала Т.ЛЕАНІДАВА.**



**Па гарызанталі:** 1. Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 6. Жанр дзіцячага фальклору. 11. Нарматыўна-тэхнічны дакумент, якім вызначаны адзінкі велічынь, патрабаванні да прадукцыі. 12. Частка войска, якая знаходзіцца наперадзе галоўных сіл. 16. Мяккая скура з аксамітнай паверхняй, якая вырабляецца са шкуры аленя, лася шляхам спецыяльнай апрацоўкі. 17. Шклопадобнае пакрыццё на кераміцы, замацаванае абпальваннем. 18. Мера масы ў Расіі XVI—XVII стст. 19. Насычаны воданепранікальным саставам тоўсты кардон, які выкарыстоўваецца як дахавы і ізаляцыйны матэрыял. 20. Частка корпуса некаторых струнных музычных інструментаў, якія служаць для адбіцця і ўзмацнення гуку. 23. Беларускі савецкі паэт, аўтар зборніка "Ад шчырага сэрца"". 24. Французскае навукова-даследчае судна экспедыцыі Ж.І.Кусто. 25. Сузор'е Паўднёвага паўшар'я неба. 26. Англійскі філосаф-марксіст. 28. Электрамеханічнае прыстасаванне для прыёму сігналаў выкліку. 29. Руская савецкая пісьменніца, аўтар успамінаў пра Я.Купалу "Вялікі сын Беларусі". 30. Статак авечак.

**Па вертыкалі:** 2. Раман Ф.М.Дастаеўскага. 3. Прадукт сухой перагонкі дрэва. 4. Парнакапытная жывёліна падатрада жвачных. 5. Уяўная лінія, якая падзяляе зямны шар на Паўночнае і Паўднёвае паўшар'і. 7. Прыбор з люстэркам для агляду поласці рота. 8. Верхняя гарызантальная частка будынка, якая апіраецца на калоны і складаецца з карніза, фрыза і архітрава. 9. Сістэма прыёмаў вырошчвання сельскагаспадарчых культур. 10. Вышэйшае спартыўнае званне ў шахматах і шашках. 13. Травяністая споравая расліна з паўзучым сцяблом. 14. Галоўны член двухсастаўнога сказа. 15. Афіцыйнае выказванне нязгоды з якім-небудзь рашэннем, пастановай. 21. Цыркавы артыст. 22. Рускі савецкі энтограф. 27. Палепшаная грунтавая дарога. 28. Спартсмен, які спецыялізуецца ў бегу ці гонках на доўгія дыстанцыі.

## АДКАЗЫ

### на красворд, надрукаваны ў нумары за 27 лістапада.

**Па гарызанталі:** 1. Гапак. 7. Наватар. 8. Дрэздэн. 10. Вест. 11. Акула. 12. Ямал. 13. Адкос. 15. Дрэйф. 17. Крыга. 19. Чарот. 20. Домна. 24. Драма. 25. Драга. 26. Аванс. 27. Каня. 29. Аміяк. 31. Рыца. 32. Косінус. 33. Пружаны. 34. Афорт.

**Па вертыкалі:** 1. Града. 2. Карта. 3. "Жалейка". 4. Пакт. 5. Азія. 6. Аэрарый. 9. Фужэр. 13. Акорд. 14. Скала. 15. Дрозд. 16. Флора. 17. Канва. 18. Абрус. 21. Маналог. 22. Сафія. 23. Карціна. 28. Якір. 29. Апуха. 30. Карат. 31. Ружа.

*Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі*
*Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА*



210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.



Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 2 друкаваныя аркушы. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 156.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.

◆ *ЧЫТАЧ — ГАЗЕТА*

## РАЗЛУКА БУДЗЕ НЯДОЎГАЙ

*Мая любімая спявачка Ала Пугачова, чула па радыё, "згубіла голас". Што ж здарылася, калі яна зможа зноў парадаваць паклоннікаў свайго таленту?*

Р.КОРЗУН.

г.Віцебск.

"Калядныя сустрэчы", якія намячаліся з 3 па 19 снежня ў маскоўскім спарткомплексе "Алімпійскі", і гаспадыняй якіх рыхтавалася быць Ала Пугачова, не адбудуцца. Падвялі галасавыя звязкі гаспадыні балю.

Нядаўна на адным з сольных канцэртаў Алы Барысаўны ў Пярмі адбылося "ўшчамленне голасу". Па рэкамендацыі медыкаў спявачка цяпер нават размаўляе напаўголаса. Аднак ужо вясной будучага года Ала Пугачова спадзяецца зноў выйсці на эстраду.